


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (1063) ГОД XXI БЕЛАСТОК, 11 ЛІПЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.



VIII З'ЕЗД БГКТ

## Мы пасталелі, перад намі новыя заданні

*(Выступленне Аляксандра Баршчэўскага — дэлегата з Варшавы).*

Хачу я закрануць некалькі праблем, якія лічу найважнейшымі для нашай дзейнасці. Мне здаецца, што галоўным у працы БГКТ было тое, што яно ніколі не паступала паводле прыказкі: мая хата з краю — нічога я не знаю. Заўсёды мы былі ў гушчы тых спраў і тых праблем, якія былі актуальныя ў нашай краіне — і палітычныя, і эканамічныя, і культурныя. І, несумненна, тыя вялікія змены, што наступілі ў нашай краіне, з'яўляюцца ў нейкай ступені і вынікам нашага дзеяння. А трэба сказаць, што за апошнія 30 год адбыліся ў нашай краіне векапомныя падзеі. Да іх я хачу аднесці перш за ўсё асвету, якая прычынілася да павышэння інтэлектуальнага ўзроўню беларускага насельніцтва. Другая справа — гэта бясплатная лекарская апека, пра якую беларусы нават і не марылі, а яна прычынілася да паляпшэння фізічнага здароўя беларусаў. Трэцяя рэч — гэта радыкальныя змены эканамічнага ўзроўню нашай вёскі, сярэдняе пакаленне дасканала памятае даваенную нашу вёску з сярпамі, цапамі, жорнамі. Ад гэтага і следу не засталося. І чацвёртая справа — гэта эманцыпацыя, нацыянальная роўнасць, зраўнанне беларусаў з палякамі ў правах і абавязках. І гэтыя справы мы павінны заўсёды падкрэсліваць у сваёй дзейнасці.

Цяпер іншымі сталі і горад і вёска, цяпер селянін без цяжкасцей знаходзіць трактар, рабочы — станок, вучань — школу, паэт — ружу. І ўсё гэта звязана з нашай палітычнай рэчаіснасцю; не з пекінамі, не з нью-йоркамі, не з „вольнымі еўропамі", а з канкрэтнай нашай рэчаіснасцю, з нашай партыяй, з якой мы былі і будзем звязаны. За апошнія трыццаць год у павышэнні дабрабыту і развіцця культуры зроблена ў Народнай Польшчы больш, чым за папярэднія трыста год. Гэта бясспрэчны факт, і яго трэба даводзіць да свядомасці маладога пакалення, бо яно не заўсёды з гэтага здае сабе справу, і яму часта здаецца, што было заўсёды так, як цяпер.

На жаль, гэтае матэрыяльнае ўзбагачэнне не заўсёды ідзе ў пары з ростам духоўнага багацця. Часта матэрыяльная заможнасць збядняе душу чалавека. Дваццаць год таму назад, калі мая вёска была бедная, ніхто з падарожнага не ўзяў бы там грошай за кавалак хлеба ці шклянку малака, а сёння — возьмуць. Таму мы павінны пры гэтым дабрабыце, які цяпер у нас ёсць, захоўваць духоўную прыгажосць, шчырасць, непасрэднасць, альтруізм — усё тое, што ў чалавеку найпрыгажэйшае.

Як старшыня варшаўскага гуртка хачу некалькі слоў сказаць аб яго дзейнасці. Пасля доўгага перыяду маразму, апошнім часам у нас зроблена многа добрага. Мы рэгулярна праводзім даклады аб мінулым і сённяшнім Беларусі, а таксама польска-беларускім супрацоўніцтве. Атмасфера ў нашым аддзеле інтэрнацыянальная, прыходзяць да нас палякі, украінцы, рускія; у нас ніколі не было канфліктаў на нацыянальнай глебе. Вельмі красамоўным прыкладам гэтаму нашыя навагоднія балі, на якіх гуляе па 800—1000 чалавек. І ніколі на іх не здарылася ніякага непаразумення ці спрэчкі. Вядома, каб падрыхтаваць даклад на адну гадзіну, трэба папрацаваць над ім дзесяць гадзін, а то і ўвесь дзень. Вельмі шкада, што даклады, з якімі выступаюць нашы лектары ў Варшаве, выкарыстоўваюцца толькі адзін раз. Трэба прыкласці намаганні, каб нашыя дакладчыкі маглі з імі выступаць на Беласточчыне.

Другая тэма — гэта справы кафедры беларускай філалогіі, якой я зараз непасрэдна кірую. Існуе яна ўжо 20 год, была створана разам з БГКТ у 1956 г. і была таксама вынікам палітыкі нашай партыі. Доўгія гады, з прычыны дрэннага супрацоўніцтва з бельскім і гайнаўскім беларускімі ліцэямі ў нас не было адпаведных кандыдатаў, і мы прымалі тых, што здалі на славянскую або рускую філалогію і не былі прыняты з-за недахопу месц. У апошнія гады, дзякуючы добраму супрацоўніцтву з нашымі ліцэямі, асабліва з бельскім

(Працяг на стар. 4)



Фота Я. Цялушэцкага




## МОВА

Не ў мёртвых рысках на васкоўцы
яна прыйшла,
а ў роднай песні.
Я ўдзячны вам, сябры-вяскоўцы,
што мову да мяне данеслі,
што мне не трэба,
як знаходку
часоў былых,
парой начною
разгадваць тайну мовы продкаў.
Яна пры мне,
ўва мне,
са мною.
Як родны край, на выгляд сціплы,
яна ў сабе хавае скарбы.
І гнеў,
і сум,
і жарт дасціпны,
і шчасця радасныя фарбы
даступны ёй.
А ці б маглі мы
дакладней выказаць прызнанні
ў любві —
да маці,
да Радзімы,
а да адзінай —
у каханні?
Праз перашкоды забаронаў
яна прайшла жывой і спраўнай,
пакуль зрабілася законнай,
пакуль зрабілася дзяржаўнай.
Ёй —
самароднай,
самай роднай —
ні крыўдай нізкай,
ні апіскай
не здраджу.
Самай неабходнай
яна мне стала.
Самай блізкай.
Па шчырасці,
не па вярбоўцы
служу аддана роднай песні.
Я ўдзячны вам, сябры-вяскоўцы,
што мову да мяне данеслі.

**Артур Вольскі**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Важнае звяно ● Свабода прайшла ў ліпені ● Дэпутат парламента ● Праект горада ў космасе ● Некалькі слоў аб фальклоры... і самаўпэўненасці ● Не праехаць, ні прайсці ● Разважанні аб трускалках ● Весткі з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Міхалова, Плёсак, Дубіч Царкоўных, Нараўкі, Чаромхі ● Ад родных ніў ● Калі сніцца вайна ● Песня „Bezpańska miłość".**

## Назначаю цябе рабочым...

...І словы гэтыя гучаць урачыста, горда, у святочных абставінах, бо прасторная святліца металаапрацоўчага камбіната **„Понар-бяль"** у Беластоку да адказу запоўнена вучнямі, настаўнікамі, прадстаўнікамі рабочага калектыву, у поўным камплекце прысутнічае кіраўніцтва прадпрыемства. Урачыстасць праходзіць над высакародным дэвізам, узятым з выступлення Эдварда Герка:

**„Салідарна спалучым свае намаганні дзеля супольнага дабра!"**

Гляджу на групу доўгавалосых юнакоў, якім толькі што пачаліся сыпацца вусы. Сядзяць асобна. 21 чалавек. Пер-

(Працяг на стар. 4)



*— Назначаю цябе рабочым.*

## ШТО НОВАГА?

### НЕЗВЫЧАЙНЫ СУВЕНІР

Наўрад ці ў каго ў свеце ёсць такі алімпійскі сувенір, як у 60-гадовага японца Сідзуо Такэуці з горада Кагасіма. Вось ужо амаль 12 гадоў у яго доме захоўваецца алімпійскі агонь. Той самы, што гарэў на нацыянальным Такійскім стадыёне ў кастрычніку 1964 года, у дні летніх XVIII гульняў. Аб тым, як ён трапіў да Такэуці і як апошняму ўдаецца так доўга падтрымліваць яго, расказала нядаўна газета „Іаміуры“.

...Усё пачалося з таго, што сваяк, які жыве на аддаленым астраўку, у пісьме да Такэуці паскардзіўся, што яму і суседзям так і не давядзецца, напэўна, убачыць алімпійскі агонь. Такэуці вырашыў, чаго б гэта ні каштавала, прынесці астравіцянам радасць.

План аперацыі „выкрадання агню“ склаўся даволі хутка: па дарозе ў Токіо алімпійскі агонь павінен быў суткі гарэць у прэфектуральнай спартыўнай зале — гэта была адзіная рэальная магчымасць для Такэуці ў ажыццяўленні далёка не карыслівай мэты.

Тайна ён пранёс у залу газавую лямпу і стаў чакаць. Вакол агню панавала весялосць: усе спявалі, танцавалі, і толькі тры прадстаўнікі японскага алімпійскага камітэта заставаліся спакойнымі — сцераглі алімпійскі агонь. „А чаму б вам не прыняць удзел у танцах? — спытаў Такэуці, — я пагляджу за агнём“. Калі „вартавыя“ поўнасцю аддаліся весялосці, Такэуці жгутом з газеты запаліў сваю лямпу...

Капітан карабля, якога Такэуці папрасіў даставіць свяшчэнны агонь на астравок, адмовіўся транспартаваць запаленую газавую лямпу, спаслаўшыся на тое, што не мае права перавозіць вогненебяспечныя грузы. Баючыся, што агонь патухне, Такэуці купіў для яго падтрымання другую лямпу. Усе спробы пераправіць алімпійскі агонь на востраў закончыліся няўдачай. А алімпійскае полымя працягвала гарэць.

Неўзабаве ў Такэуці ўвайшло ў звычку раз у тры дні пераносіць агонь з адной лямпы ў другую. За гэтыя гады ён памяняў 8 лямпаў, у якіх згарэла 12 бочак газы.

Такэуці нікому не гаварыў, што ў яго дома гарыць алімпійскі агонь. Але мінуў час, і яго пачалі адольваць сумненні. Імі ён падзяліўся з паліцыяй. Але там яго супакоілі: „Ты ж не патушыў свяшчэнны агонь і не падмяніў яго, а толькі раздзяліў. Гэта нельга разглядаць як крадзеж і злачынства“.

**Ю. Удовін**

### ГОД 1968-Ы ПА ЭФІОПСКАМУ КАЛЕНДАРУ

Эфіопія ідзе наперадзе большасці народаў свету па тэрмінах навагодніх свят, але разам з тым адстае ў падліку колькасці мінулых гадоў: 12 верасня 1975 г. яна сустрэла 1968 год. Эфіопскі каляндар адрозніваецца ад грэгарыянскага на 7 гадоў і 8 месяцаў, а эфіопскі год дзеліцца на 13 месяцаў — першыя 12 складаюцца з 30 дзён, а апошні, трынаццаты, — з пяці ў звычайных і шасці ў высакосныя гады.

Новы год прыпадае ў Эфіопіі на сезон „вялікіх дажджоў“, якія шчодра паліваюць высакагорныя раёны больш чым тры месяцы. Холадна, няўтульна, ды і што за новы год без ёлкі. Нейкае падабенства навагодняй ёлкі бывае 27 верасня, калі эфіопы адзначаюць свята „Маскаль“, якое знамянуе канец дажджоў і пачатак палявых работ. У сёлах і гарадскіх раёнах, на плошчах і ў дварах ставяць высокія шасты „дземера“, упрыгожаныя, замест цацак, сціплымі жоўтымі кветкамі, якія пакрываюць к святу схілы гор і ўзгоркаў.

Да наступлення вечара ля „дземеры“ збіраецца народ у белых нацыянальных „шама“ — даўгаполым адзенні, па-майстэрску расшытым па краі каляровай каймой. Кожны прыносіць бярэме галля і кладзе яго ля падножжа „дземеры“ як свой уклад у будучыя ўрачыстасці. Паступова ўтвараецца піраміда, і з наступленнем прыцемкаў прысутныя тройчы яе абыходзяць, а затым падпальваюць. Вакол палаючых кастроў пачынаюцца песні і танцы.

## Наша галерэя



*М. Гебялеў, Мінск. Шкатулка (дрэва, інкрустацыя).*

**Па-суседску мы жывем**

# На радзіме праз 30 гадоў

**Еўфрасінню і Максіма Бялеўскіх** сустрэў я ў вёсцы Махнатае, што ў Гайнаўскай гміне. Яны тут нарадзіліся, выраслі і пажаніліся. Аднак ад 1946 года жывуць у Савецкай Беларусі, у горадзе Ліда. Перасяліліся туды, як многія тысячы іншых нашых землякоў, у першыя пасляваенныя гады.

— Ці вы ўпершыню наведваеце сваю родную вёску праз 30 гадоў? — пытаю Максіма Афанасьевіча.

— Так, ад вайны, гэта значыць ад таго часу, калі мы адсюль выехалі, я яшчэ тут не быў.

— Працавалі, дзяцей гадавалі, — уключаецца Еўфрасіння Ігнатаўна, — і так неяк час сходзіў, што і сабрацца не маглі...

— А цяпер мы ўжо пенсіянеры, дзеці сталі самастойнымі, дык і пагасцяваць можам.

— Хацелася паглядзець, як жывуць даўнейшыя аднавяскоўцы, сваякі, суседзі...

— Брат прыслаў „запрашэнні“, дык узялі мы пашпарты і паехалі... Ад Ліды, дзе мы жывем, не так ужо далёка ў Гайнаўку. Бліжэй, чым з Ліды ў Мінск...

...*Брат прыслаў „запрашэнні“*. Такіх запрашэнняў жыхары Беласточчыны і ўсёй краіны кожны дзень высылаюць многія тысячы. Хопіць пабываць на чыгуначнай станцыі ў Беластоку, калі прыходзіць цягнік з Вільнюса або з Ленінграда, хопіць паглядзець, як людзі радасна вітаюцца, як з цяжкім сэрцам расстаюцца... **Па-суседску мы жывем!**

Вернемся аднак у вёску Махнатае, дзе ў Сяргея Кучко ў гасцях знаходзяцца яго сваякі.

— Як вам жывецца ў Савецкай Беларусі? — пытаю іх.

— Добра, вельмі добра нам там жывецца, — рашуча сцвярджае цётка Еўфрасіння. — Так прынамсі мне здаецца, — ужо крыху спакайней дадае яна праз хвіліну. — Я сяджу дома, маю пенсію, унукаў гадую... Дык чаго ж да шчасця больш трэба...

— А якія ў вас асталіся ўражанні ад сустрэчы з роднай вёскай пасля 30-гадовай разлукі?

— Цікава было паўзірацца, як цяпер жывуць тут людзі. І адразу хачу вам сказаць, што не горш, чымсьці ў нас, у Савецкай Беларусі! Я тут пабывала ў многіх хатах, наведвала сваіх даўнейшых сяброўак, з якімі на вечарынках кудзелю прала, ды на гульнях танцавала... Прыгожа і багата жывуць цяпер махнатаўцы. Тэлевізары, радыёпрыёмнікі, сціральныя машыны, фабрычная мэбля, дарагая вопратка, кажухі, футры, адмысловыя сукенкі, блузкі, світры...

— Ну і разбудавалася наша вёска, — дадае дзядзька Максім. — Калі мы яе пакідалі, яна была выключна драўляная, пераважна пад саламянай страхой, амаль па вокны ўросшая ў зямлю. А цяпер што ні крок — прасторная мураванка. Каб сам не ўбачыў, дык цяжка было б і паверыць, што ў Махнатым ужо такога жыцця дачакаліся.

— Адно толькі не змянілася ў гэтай вёсцы, — нечакана заявіла Еўфрасіння Ігнатаўна, а я тут жа ўтаропіў у яе зацікаўлены позірк.

— Гэта наша традыцыйная беларуская гасціннасць. Куды не зойдзеш, зараз жа саджаюць за стол і частуюць чым хата багата.

Так, гэта праўда, бо і я сам ледзь адпрасіўся з гасціннай хаты Кучкоў, дзе па ўсёй кухні апетытным пахам свежага мяса разносіўся рыхтаваны абед. Мне, аднак, неабходна было спяшацца ў суседнюю вёску Старое Беразова.

**В. Рудчык**




### ФАЛЬГА І ЎПАКОЎКА З БЕЛАСТОКА

Даследчае прадпрыемства ўпакоўкі ў Беластоку ўжо ад ліпеня мінулага года прадукуе паліэтыленавую фальгу, розную ўпакоўку з ПЦВ і са стырапяну, а таксама торбачкі і кубачкі для спажывецкай прамысловасці. Ва ўпакоўцы са стырапяну высылаем замежным пакупнікам швейныя машыны „Зінгера“ з Радома ці батарэі для ванных з Кракава.

Беластоцкае прадпрыемства ўпакоўкі з'яўляецца вядучым у краёвай прамысловасці па ўпакоўцы. Мае яно сучасныя машыны і living розпае абсталяванне французскай, нямецкай і італьянскай прадукцыі. На гэтым новым прадпрыемстве працуе 460 чалавек.

### У БЕЛАСТОКУ НАЙЧЫСЦЕЙШАЕ ПАВЕТРА

Найбольш чыстае паветра ў нашай краіне маюць наступныя ваяводствы: Беластоцкае, Сувальскае, Ольштынскае і Гданьскае. Сярод ваяводскіх гарадоў найчысцейшае паветра мае Беласток. У ім у сярэднім на адзін квадратны кіламетр ападае 150 тон пылу ў год пры дапушчальнай норме 250 тон. Было б значна лепш, калі б кацельныя мелі супрацьпылавое абсталяванне. Цяпер з 40 іх мае гэтае карыснае абсталяванне толькі 16. Прыдалося б таксама больш ахоўных зонаў вакол прамысловых прадпрыемстваў. Дагэтуль такую зону маюць толькі „Фасты“.

### РАСЦЕ НОВАЯ БАЗА МПК

Новая сядзіба Гарадскога камунікацыйнага прадпрыемства (МПК) будуецца ў Беластоку па вул. Пагоднай. Будзе яна перададзена ў карыстанне ў верасні гэтага года. На новай вялікай базе (яна займае плошчу звыш васьмі гектараў) для 300 аўтобусаў будуць створаны добрыя ўмовы рамонту і кансервацыі. Рабочыя на базе і шафёры МПК атрымаюць раздзявальню, ванныя, сталовую, буфет, святліцу, бібліятэку і кіёск. З часам, калі будзе пабудаваны адміністрацыйны будынак, у ім будзе таксама лячэбны пункт і псіхатэхнічны кабінет.

(ця)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 10.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Dyskretny czas Riviery — film fab. 12.45 Wakac. Studio Nauczyc. 16.10 Pr. I prop. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Inf. Wyd. 17.15 W stylu DANY. 17.40 Za kierownicą. 18.00 Progi i bariery. 19.00 Wystąp. Ambasadora Mong. Rep. Lud. 19.10 Kron. Igrzysk Młodz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Wybacz i żegnaj — film fab. radz. 21.50 Dziennik. 22.10 Sport. 22.25 Pr. rozr.

—●-■-●—

**Niedziela 11.VII.** 7.25 Tech. Rol. Zajęcia wakac. 7.40 Tech. Rol. Zajęcia wakac. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Najmłodszych. 9.25 Antena. 9.45 X Festiwal Piosenki Żołn. — Kołobrzeg 76. 11.15 Wojsk. Film Dok. 11.55 Dziennik. 12.15 Ostatni wolni Indianie. 12.50 Pr. muz. 13.25 Z kamerą wśród zwierząt. 14.00 BANK 440: Końskie—Września. 15.20 Los. Duż. Lot. 15.35 Wielka gra. 16.50 X Festiwal Piosenki Żołn. — Kołobrzeg 76. Koncert Galowy cz. I. 17.50 BANK 440: Końskie—Września. 18.10 Studio Montreal 76. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Eleonora — film ser. wł. odc. I. 21.35 X Festiwal Piosenki Żołn. — Kołobrzeg 76. Koncert Galowy cz. II. 23.05 Inf. magazyn sport.

—●-■-●—

**Poniedziałek 12.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 12.45 Wakac. Studio Nauczyc. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Dziennik. 16.15 Obiektyw. 16.30 Kino Zwierzyńca. 17.05 Echo stadionu. 17.35 Pr. publ. 18.00 Ostatnia rozgrywka — film ser. TV bułg. 19.05 Kronika Igrzysk Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: M. Duras — „O wpół do jedenastej wieczór, latem”. 21.30 Między nami rodzicami. 22.00 Dziennik. 22.15 Polihymnia na wakacjach.

—●-■-●—

**Wtorek 13.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Eleonora — film ser. wł. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dziennik. 16.20 Obiektyw. 16.40 Lektury Pegaza. 17.00 Starym borom nowe damy imię. 17.25 Fakty, Opinie, Hipotezy. 18.00 Studio Tel. Młodych. 19.00 Kronika Igrzysk Młodzieży. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Paryscy Mohikanie — film ser. TV CSRS. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Dziennik. 22.25 Wiecz. Kino Letnie.

—●-■-●—

**Środa 14.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Paryscy Mohikanie — film ser. TV CSRS. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Obiektyw. 16.50 Popołudnie Najmłodszych. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Godzina Mariusza Dmochowskiego. 18.35 Konsylium cz. I. 19.05 Kronika Igrzysk Młodzieży. 20.35 Montparnasse — film fab. franc. 22.35 Konsylium cz. II. 22.50 Dziennik. 23.05 Pr. rozr.

—●-■-●—

**Czwartek 15.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 TELEFERIE. 18.15 Patrol. 18.35 Pr. publ. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio Olimp. 20.40 Podróże detektywa — film ser. ang. 21.30 Pegaz. 22.15 Dziennik. 22.30 Gdzie moja miłość — spotkanie z Wandą Polańską.

—●-■-●—

**Piątek 16.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Podróże detektywa — film ser. ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 X Y Z. 17.30 Camerata — program muz. 18.10 Przez maskę płetwonurka — film dok. franc. 18.40 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio Olimp. 20.40 Teatr Małych Form: E. Waugh — „Mała przechadzka pana Loveday'a”. 21.30 Drogowskazy. 22.15 Dziennik. 22.30 Sto pytań do Stanisława Grochowiaka.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 9.VII.** — 8.30 Film ser. 14.00 Film fab. 17.30 Piłka nożna. CSK—„Czernomorec”. 19.45 Film ser.

**Sobota 10.VII.** — 9.00 Film ser. 11.50 Film dla dzieci. 13.10 Sport (Spotkanie drużyn lekkoatletycznych ZSRR—Francja). 16.15 Film anim. 18.15 Film fab. 19.30 Film ser. 20.45 Film muz.

**Niedziela 11.VII.** — 9.00 Film ser. 11.10 Warcaby. 15.40 Film anim. 17.25 Piosenki Aleksandry Pachmutowej. 19.30 Film ser. 20.40 Transmisja z Paryża meczu lekkoatletycznego ZSRR—Francja.

## КІНО

**Białowieża** Trzecia córka — radz. 13—14. Noc na Karlsztejnie — czes. 15—16. Kazimierz Wielki — pol. 17—18.

**Czyże** Dzieci lwicy z Buszu — ang. Nie ma róży bez ognia — pol. 14—18.

**Dubicze Cerkiewne** Dr Judym — pol. Gniewna podróż — buł. 14—18.

**Gródek** Sędzia z Texasu — USA 17—18.

**Kleszczele** Łobuz — fr. 13—14. Rudy lis — NRD. 15—16. Granica miłości — węg. 17—18.

**Michałowo** No i co doktorku — USA. 13—14. Rzeka płynie dla zakochanych — radz. 15—16. Jeźdźcy — USA 17—18.

**Mielnik** Grzeszna natura — wł. 13. Yrika moja miłość — radz. 17—18.

**Milejczyce** Sześć niedźwiadków i Kloun Cebulka — czes. 13—14. Z własnej i nieprzymuszonej woli — rum. 15—16. Podróż — wł. 17—18.

**Narew** Kalina czerwona — radz. Drogi do ojczyzny — pol. 14—18.

**Narewka** Strach — pol. Kapitan Mikula Mały — jug. 14—18.

**Nurzec** Nocny cowboj — USA 13—14. Grzeszna natura — wł. 15—16. Największe wydarzenie od czasu, gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 17—18.

**Orla** Czerwone i białe — pol. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — wł. 14—18.

**Rajsk** Jarosław Dąbrowski — pol. Wielka noc i wielki dzień — czes. 14—18.

B.Z.Graf. Zam. 1507. F-2.

 

# У свеце магіі і забабонаў

Першабытны чалавек з усіх бакоў быў акружаны недаступнай таямніцай прыроды, якая за пасрэдствам не менш таямнічых з'яў безупынна ўмешвалася ў яго жыццё, не выпускаючы яго за рубяжы сваіх законаў. Адзіная надзея змянення жадання ў рэальнасць была ў магічных дзеяннях, пераплеценых славесным тэкстам, пры дапамозе якіх прабавалі ўздзейнічаць на сваіх багоў, цвёрда верачы, што зробяць яны асяроддзе больш ласкавым. Былі абсалютна перакананы ў тым, што хопіць на пяску або снезе нарысаваць перабітага кап'ём звяра, каб абяспечыць сябе на паляванні здабычай, ці даволі абліць каго-небудзь вадой, а праз некалькі дзён пойдзе доўгачаканы дождж. Вось на ніве такога светапогляду пачалі брыняць замовы ды закляцці, якія былі першымі спробамі пакарання прыроды. З бегам часу паяўляліся новыя, і да прыняцця хрысціянства бытавала ўжо іх вялікая колькасць. Хрысціянская рэлігія ўнесла ў іх толькі сваю афарбоўку, ну і, зразумела, далучыла рад уласных. Замовы — гэта верны спадарожнік гаспадарчай дзейнасці. Карысталіся імі, калі першы раз выходзілі ў поле, калі першы раз выганялі жывёлу, калі клалі першы сноп у гумно, калі адпраўляліся ў далёкую дарогу, калі ішлі на суд і т. д. Перад усім замовамі і магіяй, якія трымаліся ў таямніцы, займаліся „прафесіяналы“. Частка, аднак, гэтага перайшла ў народ і ўтрымоўвалася, чаму спрыялі сацыяльныя і культурна-бытавыя ўмовы ды адсутнасць медыцынскай дапамогі, асабліва на вёсках. Найбольш аднак засталося ў народзе закляццяў, магічнай дзейнасці і забабонаў, якія ў пэўным сэнсе страцілі магію і амаль увогуле не маюць слоўнай падкладкі таму, што сапраўдныя замовы засталіся надалей ва ўладанні калдуноў і шаптух, якія трымаюць гэта ў таямніцы.

Ці сучасная вёска сапраўды верыць у забабоны? Не. Але гэта не значыць, што з імі не лічыцца. І часта, паставіўшы такое пытанне, можна пачуць адказ: „Дапамагчы не дапаможа, але і не пашкодзіць“. Цікава, што аж дасюль, калі ўжо ўсё жыццё нераздзельна звязана з тэхнікай, народ захаваў гэтую цікавую частку фальклору, якая, здавалася б, павінна даўно загінуць. Вяртаючыся да забабонаў і магіі, трэба сказаць, што тыя, што засталіся сярод людзей, найчасцей звязаны з гаспадаркай і прыватным бытам і маюць перасцерагальна-дапаможны характар. Вось прыкладна бытавалі, а яшчэ нават ёсць выпадкі, што і цяпер, такія перакананні, як:

У той дзень, калі ідуць засяваць, нельга нічога нікому пазычаць. Не пазычаць, калі ў гаспадарцы прыбытак. Не пазычаць пасля захаду сонца.

Гэта былі самыя важныя моманты ў гаспадарчым жыцці чалавека. Узяць хаця б засевы. Гэта першы крок да будучых ураджаяў. І людзі былі перакананы, што пазычаючы, забярэ іх разам з пазыкай. У яго будзе збожжа прыгожае, а ў іх або вымакне, або не вырасце. Падобна з тым прыбыткам, які, калі не прытрымацца гэтай перасцярогі, абавязкова адыдзе. Калі гаварыць пра пазыку пасля захаду сонца, то трэба звярнуць увагу на тое, што менавіта з захадам сонца канчаўся дзень. І не пазычалі, бо былі перакананы, што не будуць мець найменшай карысці са зробленага, бо аддалі яго разам з пазыкай. Былі перакананы, што або іх абкрадуць, або здарыцца нейкае няшчасце, на якое ўсё трэба будзе выглажыць. Гэта з боку перасцерагальнага. Але людзі стараліся і дапамагчы сабе. Прыкладна, калі курка знесла першае яйка, бралі яго, клалі ў рэшата і качаючы прыгаварвалі: „Нясі, курка, столькі яечак, колькі ў рэшаце дзірачак“. Таксама ў хляве, дзе стаялі авечкі, за парогам закопвалі яйка, каб авечкі каціліся так, як коціцца яйка. Часта здаралася так, што ў каровы змяншалася малако. Людзі цвёрда тады верылі, што абавязкова нехта падлажыў нейкія чары. Замест таго, каб ісці да калдуна,

(Працяг на стар. 5)



# Хрысціны „Арэшкаў“

У сувязі са святкаваннем XX гадавіны Беларускага грамадска-культурнага таварыства, 20 чэрвеня ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбылася ўрачыстасць. Былы старшыня былога гайнаўскага аддзела Аляксандр Іванюк расказаў прысутным аб дасягненнях гайнаўскай арганізацыі БГКТ у развіцці культурна-асветнай дзейнасці БГКТ. Затым зачытаў ён прозвішчы людзей, якім Ваяводская рада нарадовая прызнала знак „Заслужаны для Беласточчыны“. А вось яны: Ольга Гарустовіч, Аляксандр Закройшчык, Вера Краўчук, Тамара Купень, Васіль Купрыяновіч, Мікалай Моліш, Марыя Навіцкая, Анна Парфенюк, Анна Панфілюк, Ніна Пучко, Васіль Сакоўскі, Аляксей Сельвясюк, Галена Сельвясюк, Уладзімір Сцепанюк, Тамара Ціванюк і Зінаіда Хмель. Уручылі гэтыя ўзнагароды першы сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы — — Іван Скепка і першы сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы — Іван Войцюк. Ад імя ўзнагароджаных дзеячоў БГКТ падзякаваў настаўнік беларускага ліцэя ў Гайнаўцы — Аляксей Сельвясюк.

Пасля распачалася цікавая цырымонія, звязаная з прысваеннем імя фальклорнаму калектыву з вёскі Арэшкава. Усіх яго ўдзельнікаў папрасілі выйсці наперад. Цырымонію гэтую назвалі там хрысцінамі, а апекуноў хрышчонымі бацькамі і кумамі. А былі імі галоўны бухгалтар ГП БГКТ Галена Мялешка і начальнік Гайнаўскай гміны Юрый Буйноўскі, які ў сваім выступленні падкрэсліў неабходнасць дапамогі і падтрымкі калектыву. Прысваенне імя калектыву правёў таварыш Скепка, які прачытаў яго асабовы склад: Ніна Аверчук, Ніна Аверчук, Янка Аверчук, Надзея Андросюк, Ніна Галёнка, Надзея Грош, Надзея Грушэўская, Ніна Гурын, Таццяна Гурын, Вера Клімюк, Тэкля Кот, Вера Кошэль, Валянціна Мішчук, Вера Мішчук, Ніна Навіцкая, Анна Парфенюк, Вера Парфенюк, Надзея Паўлючук, Марыя Скепка, Вера Хамоцюк, Галіна Шамборская, Ніна Чурак, Люба Шакала і Яўгенія Ярмоц. Таварыш Скепка ўручыў старшыні гуртка БГКТ Ніне Аверчук „Акт прысваення імя калектыву „Арэшкі“.

Пасля гэтай цырымоніі „Арэшкі“ выйшлі на сцэну і паказалі сваю праграму, якую самі падрыхтавалі на аснове адыходзячых ужо вясковых звычаяў. Была гэта вечарынка кудзельніц з апавяданнямі, жартамі, песняю і танцамі.

А яшчэ пазней „Арэшкі“ пачаставалі ўсіх сваімі смачнымі кулінарнымі вырабамі. І, як на хрысцінах, была і песня, і хрысцінная традыцыйная „каша“.

**Міхась Хмялеўскі**



*Вакальная група арэшкаўскага калектыву на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-76“ (3 месца). Фота Я. Цялушэцкага.*

## Этнаграфічнае аконца

*Ганак у доме Янкі Максімюка ў вёсцы Сацы гм. Нарва. Фота М. Гайдука.*

## ДАМЫ ГРАМАДСКАЙ ДАПАМОГІ

Нашы вёскі старэюць. У бліжэйшыя гады значна павялічыцца колькасць адзінокіх людзей ва ўзросце больш 60 гадоў. Пажылыя людзі без сем'яў і апекі знойдуць сабе прытулак і, мабыць, апошняе жыццёвае прыстанішча ў гмінных дамах грамадскай дапамогі, доме старэйшын або доме дзённай пабыўкі — зрэшты, не важная тут назва. Найважнейшая сама ідэя. Усё будзе зроблена дзеля таго, каб старыя вясковыя людзі мелі спакойны адпачынак, мелі дзе харчавацца і культурна праводзіць час.

Першыя ў Беластоцкім ваяводстве дамы спакойнай старасці будуць адкрыты восенню гэтага года. Спачатку будзе іх толькі некалькі (эксперыментальных — прымуцца ці не). З гэтай мэтай выкарыстоўваюцца пустуючыя ў вёсках і мястэчках будынкі. Прыстасаваннем іх займаецца аддзел здароўя і грамадскай апекі Ваяводскай управы.

Найхутчэй рамантуецца будынак у Нарве, у якім некалі быў радзільны дом. Тут збегліся намаганні дырэктара гайнаўскага ЗОЗ-у лекара Люцыяна Рачкоўскага з дапамогай і дзейсным заангажаваннем прадстаўнікоў гмінных партыйных і адміністрацыйных улад у Нарве: сакратара гміннага камітэта партыі Міхася Зубрыцкага і начальніка гміны Віталіса Пякарскага.

(ця)

## Ад родных ніў

### Баня

Каля Бандароў
усе вёскі
стаят над ракою.
Баню тут
паставіць хутка
Можна б грамадою.
Бо без бані кепска,
ой, кепска, на вёсцы,
няма дзе памыцца,
хварастом пабіцца;
мужыкі ўсе летам
грязныя ад поту,
бо рабіць ім трэба
цяжкую работу:
ранняю вясною
бульбу пасадзіці,
за нядзеляк пару
і траву касіці;
і так цэла лета
кругом і кругом.
Пот ён выцірае
грязным рукавом —
гразі на ім многа,
няма дзе абмыць;
паверце, без бані
немагчыма жыць.

**Насця Грыко,**
Бандары

## З маёй званіцы

### ЯК У ПАРЦАВЕ КРАМУ БУДУЮЦЬ

Ведаеце, дзе Парцава? Ну тое, што ў Бельскай гміне! Не чулі? Не пераймайцеся. Я таксама не чуў, пакуль там крамы не пачыналі будаваць. Але цяпер з заплюшчанымі вачыма траплю. Цудоўная вёска! А крама якая! З дзвюх частак складаецца. У той першай, што дзверы разваленыя ды вокны павыбіваныя, — піўная памяшчаецца. Віно таксама можна вытрубіць. Зразумела, сваё. Каб вы бачылі, даражэнькія, што гэта за арыгінальнасць! Свет пройдзеш, а такога рэстаранчыка не знойдзеш. Ну, гавару вам — штосьці цудоўнае! Адчыняеш дзверы, а ў вочы — бабах слуп куравы ды пяску, так, як бы дзе з нейкай пустыні павеяла. Экзотыка... А сцены! Паабдрапваныя, пааббіваныя, толькі дзіркі ад электрычных гнёздаў свецяцца. Пустакі таксама ледзь не вымаюцца. Ці ж лепшая выгада ўжо можа быць? Не хочацца выходзіць дзвярыма або акном, дык хопіць толькі пачаставаць добранькім пінком сценку — і палез дзіркаю. Розныя я бачыў рэстаранчыкі. У Венгрыі над Балатонам нават у канюшні кафэ ўладзілі, але дзе яму там да гэтага універсальнага памяшкання. Тут, міленькія, так, як з тым шведскім даўгапісам. Хочаш пісаць — пішы, а хочаш паглядзець на парнаграфію — хопіць толькі зірнуць у дзірачку і ўжо цешыцца вока. Выгада. Крама пад бокам. Таксама арыгінальная. Сцены памаленьку ўжо пачынаюць крышыцца. Вось-вось пасыплюцца. І пабачце, міленькія, улады бельскага ГС-у вырашылі ліквідаваць гэтае самаробнае кафэ з крамай-буфетам. Новую краму пачалі будаваць паверхняю ў 140 квадратных метраў за 850 тысяч злотых. Але чартоўская сіла, якая тут завялася, не так лёгка паддасца. Шапнула, каб за выканаўцаў узяць бельскі кааператыў шматгалінных паслуг. А тых у сваю чаргу абдарыла чарапашачнай хуткасцю дзейнасці. І так усё цягнецца. Калі згодна з дагаворам мелі распачаць у 1974 г., то распачалі ў чэрвені 1975 г. Калі закончыць мелі ў кастрычніку 1975 г., то яны яшчэ і дасюль не закончылі. Ужо два разы перасоўвалі тэрмін. Раз то нават нелегальна (толькі нікому не гаварыце), і ўсё роўна нічога не выходзіць. А думалі ўжо вось-вось. Здавалася, што 30 чэрвеня гэтага года ўсё ж такі будзе канец. Але ж не! Не так лёгка. Да канца яшчэ далёка.

Не пераймайцеся тым, што дах ужо гатовы і ў сярэдзіне сёе-тое. Яшчэ падлогі няма. А потым яшчэ тавары перанесці трэба будзе. Самі бачыце, колькі яшчэ работы, а кааператыў прытрымоўваецца правіла — праца не заяц, у лес не ўцячэ. Такім чынам, няма чым пакуль што пераймацца. Так хутка парцаўскай цудоўнай крамы яшчэ не ліквідуюць. Але адно „але“! Калі будзеце нешта будаваць, то, пакуль падпішаце дагавор з вышэйзгаданым кааператывам, перш за ўсё падумайце.

**Бізун**



 

Пачатак на стар. 1

# Мы пасталелі, перад намі новыя заданні

і яго дырэктарам А. Карпюком, не маем ніякіх цяжкасцей з наборам кандыдатаў, заўсёды маем іх больш, чым месц, і гэта вельмі добрая з'ява. Вучацца ў нас і студэнты-палякі з Келецкага, Пазнанскага, Катовіцкага ваяводстваў, але гэта ўжо не выпадковыя людзі, а тыя, што па свайму выбару хочуць у нас вучыцца. І ніколі ў нас не было канфліктаў паміж беларусамі і палякамі, наадварот, супрацоўніцтва заўсёды было ідэальнае. Нядаўна Міністэрства навукі і тэхнікі праводзіла аналіз эфектыўнасці навучання ў вышэйшых школах краіны. Наша беларуская філалогія заняла ў Варшаве першае месца і адно з першых месц у Польшчы. Значыць, нашыя студэнты вельмі старанна і добрасумленна вучацца. Дзякуючы партыі і ўраду нашыя студэнты маюць ідэальныя ўмовы для вучобы: усе жывуць у інтэрнаце, карыстаюцца сталоўкай і атрымоўваюць стыпендыю, якая даходзіць да 1700 злотых у месяц. Яшчэ ніколі студэнты не мелі такіх умоваў. У навукова-даследчай працы наша кафедра кладзе асаблівы націск на вывучэнне беларускага фальклору Беласточчыны. І ў гэтым вельмі карысным было б супрацоўніцтва з філіялам Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, асабліва і па збіранню і па публікацыі беларускага фальклору нашага рэгіёну. А сабрана яго ўжо надта многа і напісана па ім шмат цікавых магістэрскіх работ.

Маем адзін клопат — праблема працы нашых выпускнікоў. Гэта парадаксальна, але найцяжэй ім атрымаць працу якраз на Беласточчыне.

Адносна колькасці дзяцей, якія вывучаюць родную беларускую мову, неабходна заўважыць, што яна залежыць у 90 працэнтах не ад міністэрства, не ад куратарыі, а ад нас саміх. І гэтыя 90% мы выкарыстоўваем вельмі дрэнна. Вельмі часта сустракаемся з такімі з'явамі, што дырэктар школы — сам беларус і не пасылае сваіх дзяцей на ўрокі беларускай мовы. Зразумела, што калі не пасылае дырэктар, не пасылаюць і настаўнікі, а калі не пасылаюць настаўнікі-беларусы, дык не пашле і селянін ці рабочы. Таму тут трэба пачынаць ад саміх дырэктараў, каб яны давалі прыклад і дбалі пра навучанне роднай мовы. Вельмі слушны тэзіс, выказаны беластоцкім куратарам Э. Крынскім, што дабравольнасць навучання беларускай мовы не абазначае абыякавасці да гэтай справы.

У справе нашага літаратурнага руху хачу заўважыць, што на працягу мінулых 10 год БГКТ выдала 14 кніжак з творамі нашых аўтараў агульным тыражом у 39 тысяч экземпляраў, але за апошнія 5 год выйшла ўсяго адна кніжка тыражом у 2 тысячы экземпляраў. Гэта ненармальная сітуацыя, бо выдадзеныя БГКТ кнігі разыходзяцца, маюць пакупнікоў. Варта заўважыць, што творы нашых аўтараў выдаем тыражом 2—4 тысячы экземпляраў і ўсё гэта прадаецца. Мы з В. Шведам за 3 дні прадалі каля 650 кніжак на сустрэчах у вёсках і школах Беласточчыны. Значыць, трэба выдаваць больш, гэтых кніжак чакаюць людзі. Цяпер у нас ёсць 3 члены Саюза польскіх пісьменнікаў, калі б выдаваць больш, дык праз некалькі год было б яшчэ 4—5 членаў СПП і магла б паўстаць у ім секцыя беларускіх пісьменнікаў.

І справа апошняя — беларускі музей. Дзе я ні бываю, мяне заўсёды і ўсюды пытаюць: „Дзе наш музей, дзе нашы экспанаты?“ Мне здаецца, што дапушчан вельмі прыкры недагляд. Трэба было запытаць у ахвяраваўшых найбольш каштоўныя экспанаты, ці яны згодны перадаць іх у іншы, а не наш, музей.

Мне здаецца, што мы можам сваімі ўласнымі сродкамі і нашай грамадскай працай арганізаваць беларускі скансен з тыповай беларускай вясковай сялібай, абсталяваўшы яе якраз тымі колішнімі прыладамі працы і штодзённага побыту, якія былі перададзены з нашага музея ў Цехановец. Скансен варта было б стварыць у багатай, па-сучаснаму пабудаванай вёсцы на Беласточчыне. Ён быў бы дасканалым помнікам не толькі старыне, але і наглядным доказам таму, як пры Народнай Польшчы непараўнальна павысіўся ўзровень жыцця вясковага насельніцтва. На ўзвядзенне скансена прапаную ад сябе як дабравольны дар — дваццаць тысяч злотых.





— Прысягаю выдатна працаваць дзеля развіцця Радзімы.

# Назначаю цябе рабочым...

(Працяг са стар. 1)

шыя выпускнікі тэхнічнай прафесіянальнай школы, якая існуе пры гэтым камбінаце. Некаторых пытаю: адкуль яны родам? **Людвік Тапчэўскі** — з Бельска, **Антон Грынявіцкі** і **Кшыштаф Валейка** з вёскі Лявіцкае, **Рамуальд Анушкевіч** — з Чорнай Беластоцкай, **Януш Саковіч** і **Лешак Жвірко** — з Беластока, а **Чэслаў Камоса** — аж з Сухаволі... Іншыя таксама з розных куткоў Беласточчыны і суседніх ваяводстваў. Школа стварыла ім шанцы здабываць карысную і патрэбную прафесію токара, або шліфавальшчыка. Сёння прымаюць іх у завадскі калектыў рабочых, бо ўсе яны, хаця нічым не абавязаны, рашылі астацца на камбінаце, пры якім вучыліся. Месца знайшлося для ўсіх. „Ухвыты“, як па-даўнейшай прывычцы называюць гэты камбінат у Беластоку, пастаянна адчуваюць недахоп рабочай сілы. Камбінат безупынна пашырае сваю вытворчасць, у эксплуатацыю паступаюць новыя цэхі, вось як гэты, што нядаўна пачаў масавую прадукцыю высокадакладных станкавых патронаў (ухвытаў) на экспарт у Савецкі Саюз. Дык людзі патрэбныя. Камбінат прабуе ратавацца тым, што ўласным транспартам давозіць рабочых да працы з наваколля Беластока, а нават з-пад Бельска, Лапаў, Сухаволі, Монек, Саколаў, каб толькі хацелі працаваць. Вось намеснік дырэктара мгр інж. **Збігнеў Пухальскі** нават спецыяльна прасіў мяне, каб на старонках „Нівы“ паведаміць усім зацікаўленым, што **„Ухвыты“ патрабуюць рабочых, асабліва вопытных спецыялістаў: токараў, шліфавальшчыкаў, фрэзероўшчыкаў і электраманцёраў.**

— Што ў замен за працу „Ухвыты“ прапануюць маладым рабочым? — звяртаюся з гэтым пытаннем да старшыні завадскога праўлення Саюза сацыялістычнай польскай моладзі **Ежы Зажэцкага.**

— Апрача неблагой зарплаты, якая перш за ўсё залежыць ад умеласці і працавітасці, малады рабочы можа лічыць у нас на тое, што атрымае месца ў адным з нашых дамоў-інтэрнатаў, а ў паасобных выпадках мы нават наймаем для сваіх спецыялістаў прыватныя кватэры. Прапануем таксама цікавую праграму адпачынку пасля працы. Перш за ўсё супольную з іншымі сябрамі па працы грамадскую дзейнасць у нашай арганізацыі, якая тут, на камбінаце, налічвае ўжо 450 членаў. Прапануем спорт, якому прыдаем шмат увагі, а таксама прапануем турыстычныя паездкі па краіне, бо мы пастаянна наладжваем экскурсіі па найбольш цікавых мясцінах Польшчы. Прапануем нашым рабочым адпачынак у Райгродзе, дзе маем уласную курортную базу. На аснове ўзаемаабмену наладжваем адпачынак для сваіх рабочых у ГДР і ў чэшскіх Кашыцах.

Камбінат „Понар-бяль“ — самае буйнае на Беласточчыне металаапрацоўчае прадпрыемства. Яго вырабы купляюць у 70-ці краінах свету. Намеснік дырэктара па эканамічных справах мгр **Казімір Тэрц'як** гаварыў мне, што зусім нядаўна пабываў ён у Канадзе, ЗША і Швецыі, дзе наладжвалі новыя кантакты на пастаўку вырабаў беластоцкай фабрыкі.

І вось у такі рабочы калектыў урачыста ўступаюць гэтыя маладыя людзі, якія толькі пакінулі сцены прызаводской школы. У школе гэтай у мінулым навучальным годзе засвойвала прафесію 420 вучняў. Пасля могуць яны папаўняць свае веды ў прызаводскім тэхнікуме, праца якога так дапасавана з цыклам змен, каб усе маглі бесперабойна вучыцца.

Па камандзе інструктара па фізкультуры сёлетнія выпускнікі прафесіянальнай школы становяцца ў рад. Дырэктар камбіната, мгр інж. **Зыгмунт Ружыцкі** падыходзіць да кожнага з іх паасобку і, дакрануўшыся да пляча адзнакай прафсаюза работнікаў металаапрацоўчай прамысловасці, урачыста вымаўляе:

**— Назначаю цябе ў рабочыя металаапрацоўчай прамысловасці.**

Маладыя рабочыя па чарзе адказваюць:

— Працую дзеля развіцця Айчыны.

Пасля гэтага кожны з іх атрымоўвае спецыяльны дыплом, які з выгляду нагадвае дыплом заканчэння вышэйшай школы.

Такое астаецца ў памяці на ўсё жыццё. І сведчыць гэта аб значэнні, якое нашы ўлады прыдаюць прафесіі рабочага. **Быць рабочым — добрым, высокаадукаваным знатаком сваёй прафесіі — гэта проста гонар.**

— У рукі рабочага, — заяўляе дырэктар Збігнеў Пухальскі, — аддаем мы цяпер станок, які каштуе ад 5 да 8 мільёнаў злотых, а бывае, што і больш...

Як далёка адыйшлі мы ад часу, калі сімвалам рабочага быў самы просты малаток, манцёрскі ключ ці кельня...

Рабочы — сёння сапраўды гучыць горда.

**Віктар Рудчык**
фота аўтара



*Янка Гасеўскі (другі злева) — найлепшы сярод выпускнікоў школы.*

**Беларуская літаратура** — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА II

Вершы Паўловіча, беручы пад увагу іх тэматыку і форму, можна падзяліць на грамадскія, прыродаапісальныя, фемiністычна-любоўныя, асабістыя, гумарыстычныя. Пастараемся па чарзе прадставіць названыя катэгорыі паэзіі Паўловіча. Адразу варта сказаць, што і ў сэнсе колькасным, і ў якасным паэзія Паўловіча не прадстаўляе выключна цікавай з'явы. Стылістыка вершаў паэта даволі ўпрошчаная, а тэматыка даволі часта — пляткарская. Пры гэтым усё ж нельга не падкрэсліць назіральніцкіх здольнасцей паэта. Паўловіч умее заўважыць тое, што ў данай сітуацыі выключнае, нештодзённае. Адносіцца гэта перш за ўсё да гумарыстычнага аспекту з'яў. Тое ж самае можна сказаць і аб успрыманні чалавека і яго характару. Пісьменнік у паводзінах, выказваннях і паняццях персанажа ўмее заўсёды знайсці нешта такое, што гэты персанаж робіць выключным і займальным.

Несумненна, найцікавейшыя гумарыстычныя творы Паўловіча. Паэт зашчапляў беларускай паэзіі тую тэндэнцыю, якую прывіваў малым празаічным формам Ядвігін Ш. Высмейванне ўсіх і ўсяго — вось дэвіз Паўловіча.

Не чужая, аднак, яму здольнасць сур'ёзнай ацэнкі і інтэрпрэтацыі рэчаіснасці. У такіх вершах творчая манера Паўловіча набліжаецца да творчасці Купалы і Коласа. Паўловіч, зрэшты, не скрываў сваёй пашаны ці можа нават захаплення Купалам і Коласам. Пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца і яго асабістыя кантакты з вялікімі нашаніўцамі, і вершы, прысвечаныя гэтым пісьменнікам.

Паўловіч быў тыповым нашаніўцам, на жаль, не ведаем, калі былі напісаны яго паасобныя вершы. Некаторыя з іх, праўдападобна, былі створаны ў савецкую эпоху. Аднак усе творы пісьменніка, незалежна ад часу іх нараджэння, утрыманы ў нормах, стылістыцы, настроі, ідэйнасці нашаніўскай беларускай літаратуры. Правільней, мабыць, было б сказаць, што творчасць Паўловіча тыповая для ранняй стадыі нашаніўскай літаратуры. У нейкай ступені Паўловіч з'яўляецца звязваючым звяном паміж беларускай літаратурай XIX і XX ст.

Францішак Багушэвіч, гаворачы аб паэзіі Дуніна-Марцінкевіча, сказаў, што яна „як бы смеючыся з нашага брата напісана“. Сказанае Багушэвічам у нейкай ступені можна аднесці і да творчасці Паўловіча. Але толькі часткова. У манеры Паўловіча няма па сутнасці панскага скалазубства над дурнотай селяніна. Але, несумненна, некаторыя яго творы — гэта апрацоўкі жартаў і анекдотаў, якія бытавалі ў панскім асяроддзі і якія праднамерана паніжалі разумовыя здольнасці селяніна. Смяхотныя сцэнкі ў паэзіі Паўловіча нагадваюць інтэрмедыі з XVIII стагоддзя, у якіх безупынна маем дачыненне з прыдуркамі, наіўнымі постацямі, з канфліктам паміж хітрым і разумным, багатым і бедным, добрым і дрэнным. Вось гэтая мода на канфлікт паміж белым і чорным, бадай, і ёсць найбольш характэрнай з'явай у паэзіі Паўловіча.

Трэба падкрэсліць, што паэт не ашчаджаў таксама і паноў і чыноўнікаў. У іх таксама знаходзіў недарэчлівае, скрыўленае, хворае, ненармальнае і выстаўляў усё гэта на публічны смех.

У вершах Паўловіча няма яўнага, паказнога маралізатарства. Паэт нідзе не апеліруе да чытача, не заахвочвае яго, не перасцерагае, не павучае. Не значыць гэта, што адносіцца да апісаных адмоўных з'яў абыякава. Проста — верыць чытачу. Верыць, што ён у стане разабрацца ў апісаных фактах, адрозніць дрэннае ад добрага. Галоўная мэта пісьменніка — выставіць на публічны смех тыя схільнасці чалавечых прывычак і паступкаў, якія перашкаджаюць жыць. І вось, калі з гэтага пункта глянуць на паэзію Паўловіча, дык трэба ацаніць яе станоўча. Пісьменнік адкрываў чытачу вочы, вучыў яго крытычна глядзець на свет, прымушаў да самастойных адчуванняў і ацэнак.

ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*На фэстыне БГКТ. Фота Р. Сенько.*

# СЕЗОН БЕЗ БОЛЬШЫХ ПЕРАМЕН

У Белавежы турысцкі сезон у разгары. Штодзённа прыязджае сюды каля 500—600 экскурсантаў і турыстаў, у нядзелі — каля 1—1,5 тыс. Да канца мая статыстыка паказвае каля 37 тыс. прыезджых, г. зн. столькі ж, што ў аналагічным перыядзе мінулага года. Цяжка цяпер сказаць, ці гэты год перавысіць колькасцю наведвальнікаў папярэдні. Першыя месяцы настройвалі аптымістычна, наступныя ўжо менш. Замежных турыстаў да канца мая налічана ў Белавежы каля 900, г. зн. на 13% больш, чым у гэты прамежак часу ў мінулым годзе. Прадстаўлялі яны 23 дзяржавы.

Матарызаваныя турысты з радасцю прывіталі стварэнне рухомага пункта па продажы гаручага. Ён знаходзіцца ля стаянкі аўтамашын. І гэта бадай адзіная навіна, якая паявілася сёлета. Рэшта — па-старому.

Традыцыйна ўжо не хапае экскурсаводаў. Турысцкае бюро ПТТК вымушана адмаўляцца абслугоўваць дзесяткі экскурсій. Увосень плануецца арганізаваць новы экскурсаводчы курс. Мо на будучы год сітуацыя ў гэтай галіне палепшыцца.

У далейшым назіраецца няўмеласць у планаванні наведвання Белавежы кіраўнікамі экскурсій і турысцкімі бюро, якія арганізуюць экскурсію. Часта кіруюцца групы ў Белавежу ў панядзелкі, калі закрыты Прыродазнаўчы музей і запаведнік зуброў, або плануецца наведванне вечарам, калі гэтыя аб'екты таксама закрытыя. Нічога дзіўнага, што потым чуваць многа наракanняў удзельнікаў экскурсій, якія праз нечую раўнадушнасць нічога цікавага не ўбачылі, хаця праехалі шмат дарогі.

Трэба пару крытычных слоў накіраваць і ў адрас многіх арганізатараў ці апекуноў школьных экскурсій. Вось вядома, што дзеці да чацвертага класа ўключна на тэрыторыю запаведніка прыроды пайсці не могуць. Яны не падрыхтаваны да такой прагулкі ні фізічна, ні разумова. Апекуны ж, маючы ў групе такіх дзяцей, часта стараюцца ўгаварыць экскурсаводаў, што гэтыя дзеці намнога старэйшыя. Добра, што экскурсаводы людзі не наіўныя, маюць вочы, вушы і язык, і лёгка хлусню вылаўліваюць. Бо падумайце самі: што, апрача вялікай стомленасці, вынясе 10-гадовае дзіця, прайшоўшы 6-кіламетровы шлях, на якім штораз то трэба пераскакваць паваленыя дрэвы? Тут і дарослы нярэдка страшэнна змучыцца.

Падвялі турыстаў гэты год выдавецтвы. Актуальна (пішу гэтыя словы 7 VI) у продажы знаходзяцца 4 брашуры з серыі „Усё пра Белавежу“ і карта пушчы. Ніводнай скромнай альбомнай пазіцыі. Загразлі ў друкарнях і даведнік А. У. Сакалоўскага, і альбом Я. Б. Фалінскага і Я. Герэзняка. На паштоўках царствуе зубр у розных пазіцыях. Ніводнага цікавага краявіду. Турысцкі бар, гасцініца „Іва“, паляўнічы дом — усё гэта добра, ды дзе прырода? Няўжо яе ў Белавежы не хапае, ці мо фатографы ў нас сляпыя? Не паявіліся яшчэ ў продажы і паштоўкі з Прыродазнаўчага музея, хаця здымкі былі выкананы некалькі гадоў назад. Чаму?

І гэта пакуль што ўсё. Праз месяц буду далей дакладваць аб актуальных справах белавежскага турызму.

**П. Байко**

(Працяг са стар. 3)

# У свеце магіі і забабонаў

стараліся дапамагчы сабе самі. Былі перакананы, што калі возьмуць цадзілак і пачнуць вывaрваць з іголкамі, то таго, хто „забраў“ малако, так пачне калоць, што сам прыйдзе дахаты і прызнаецца. Калі ўжо пры малацэ, можна прывесці яшчэ адзін прыклад. Несучы каму-небудзь малако, абавязкова сыпалі ў гладунку соль, а той, хто адносіў гладунку, не мыў яе. Усё гэта рабілі, каб не забраць ад каровы малака.

Шмат розных забабонаў звязана і з прыватным жыццём. Прыкладна: ніколі не ішла маладая жанчына першы раз хрысціць дзяўчынку, таму што доўга б не выйшла замуж. Падобна і з нежанатым мужчынам, толькі тут было другое перакананне, а менавіта тое, каб не мець у будучай сям'і адных дочак.

Многа розных перасцярог ёсць адносна цяжарнай жанчыны. Калі яна саромiцца людзей, то дзіця абавязкова будзе баяцца вачэй і часта будзе яму балець жывот. Але няма такога дрэннага, супраць якога б не было іншага забабону. Калі дзіця зурочаць, то працягвалі яго тры разы праз хамут, пачынаючы з таго боку, якім не накладаюць на галаву, або выварочваюць вопратку.

Забабоны, падобна як і другія жанры гэтай галіны фальклору, маюць і шкодныя якасці. Часта яны бываюць зусім пазбаўленымі гуманітарнасці. Але засталіся і такія, якія яшчэ па сённяшні дзень з'яўляюцца „лекамі“. Калі чалавеку баліць крыж, то трэба, пачуўшы першы гром, прыткнуцца плячыма да вугла хаты. Захавалася таксама замова на зату. Калі мучыць зага, то трэба перад усходам сонца выйсці на крыжоўку дарог і сказаць тройчы: „Выйшла зага з-за мора, напаткала Рыгора. Ты, Рыгорэ, вярніся, а ты, зага, мініся!“

Гэта, зразумела, не ўсё. Гэта толькі кропля ў моры. Аднак цікава тое, што народ перанёс іх аж да сённяшняга дня. Яны найлепш (з усіх фальклорных жанраў) паказваюць фарміраванне светапогляду і філасофіі простага народу.

**М. Шаховіч**

## Ці ведаеце, што...

...у мінулым годзе ў нашай краіне сяляне прадалі дзяржаве 170 000 тон трускалак.

...па вырошчванні трускалак Польшча займае першае месца ў Еўропе і другое ў свеце, зараз за Злучанымі Штатамі Амерыкі, якія збіраюць 220—240 000 тон. За трэцяе месца змагаюцца Італія і Мексіка.

(ця)

## ФАЛЬКЛОР

ВЯСНЯНКА




*Ідэм до Бога по ключы,*
*ідэм до Бога по ключы.*
*Одомкнэмо мы зэмліцю;*
*— Ой, выпусть, выпусть травыцю!*
*Травыця зэмлю прыкрые,*
*травыця зэмлю прыкрые.*

*А як настанэ місяц май,*
*то мы пожэнэм волы ў гай.*
*Там мы выночкі пов'емо*
*собіе на голоўкі уложэмо.*
*Там мы зільечка нарвэмо*
*і до панночкуў пуйдэмо.*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# У доме культуры ў Войшках

Вёска Войшкі — адна з больших у гміне Юхновец Дольны (150 гаспадарак і звыш 600 жыхароў). Раскінулася яна на правым беразе прыгожай ракі Нарвы. У гэтай вёсцы многа хат з разьбой, як карунка, але шмат і стройных мураванак. Наогул усе хаты тут задбаныя, ля іх салідныя, памаляваныя платы, чыстыя, акуратныя панадворкі. Мясцовыя сяляне, працавітыя і дружныя, займаюцца перш за ўсё вырошчваннем трускалак і агуркоў, але дабіліся яны таксама высокіх паказчыкаў у гадоўлі кароў, а што з тым звязана — у прадукцыі малака, курэй (сяляне прадаюць дзяржаве ў сярэднім 2000 кілаграмаў яек у месяц) і ў іншых галінах сельскагаспадарчай прадукцыі.

Да таго яны актыўныя ў грамадскіх працах. У 1972 годзе войшкаўцы задумалі пабудаваць дом культуры. Ініцыятарам гэтага мерапрыемства быў Аляксандр Барташук, па прафесіі настаўнік, які выконвае функцыю сакратара гміннага камітэта партыі.

Для пабудовы дома культуры жыхары Войшак выкарысталі драўляны будынак з разборкі, якіх многа ліквідуецца ў Беластоку. Пры пабудове найбольш працавалі Ян Трафімюк (солтыс), Уладзімір Трафімюк, Ян Рудэчка, Мікалай Лявоцюк, Фёдар Мінюк, Пётр Іванюк, Грыша Сяргеюк, Фёдар і Аляксей Рыжынскія, Грыша Семянюк і іншыя гаспадары. Вартасць грамадскай працы дасягнула амаль паўмільёна злотых.

Цяпер вясковы дом культуры (знаходзіцца ён у цэнтры вёскі, побач крамы) служыць усім. Арганізатарамі культурнай дзейнасці з'яўляюцца: дзелавы і энергічны загадчык дома культуры Сцяпан Ляшэўскі (ён таксама актыўны грамадскі дзеяч, малады мужчына з сярэдняй адукацыяй), кіраўнічка клуба селяніна Надзея Трафімюк, бібліятэкарша Валянціна Ляшэўская. Сцяпан Ляшэўскі пры дапамозе Мікалая Лявоцюка і іншых зацікаўленых культурным жыццём на вёсцы арганізуе танцавальныя забавы, на якіх моладзь культурна гуляе (жыхары не памятаюць, калі былі на іх бойкі). У войшкаўскі дом культуры прыходзіць тады моладзь з суседніх вёсак: Рыбалаў, Плёсак, Дарожак і Злотнікаў. У гэтым аб'екце культурнага жыцця адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, лекарам, раднымі; праходзяць вясковыя сходы, вясковыя дзяцінцы (быў у мінулым годзе і будзе сёлета). Ёсць тут тэлевізар, магнетафон, многа газет і часопісаў, настольныя ігры. Вучні з мясцовай пачатковай школы выступаюць у доме культуры з мастацкімі праграмамі, на якія запрашаюць сваіх бацькоў. Моладзь ахвотна ўдзельнічае ў розыгрышах у пінг-понг, у шахматных турнірах, у лекцыях, якія вядуць лектары з ТВП. Ахвотна глядзіць яна кінафільмы, спартыўныя праграмы і „Дзённік“.

У доме культуры знаходзіцца філіял гміннай бібліятэкі, якой карыстаецца 70 чытачоў. Мае ён каля трох тысяч кніжак. Новыя кніжкі бібліятэка атрымоўвае з бібліятэкі ў Лапах. Найбольш тут чытаюць Людміла Трафімюк, Аліна Ваўдзейчык, Аляксандр Барташук і іншыя.

Варта дадаць, што пачын (маецца на ўвазе пабудова вясковага дома культуры) войшкаўцаў меў свой уплыў на жыхароў іншых вёсак, напрыклад, Рыбалаў.

**Я. Цялушэцкі**

У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Канкурэнты. Фота С. Рыбі.*

## 2000 КІЛАГРАМАЎ ЯЕК

*Зборшчык Сцяпан Ляшэўскі з вёскі Войшкі (гміна Юхновец) купляе ў сярэднім 2000 кілаграмаў яек у месяц. Выконвае ён гэтую функцыю ўжо трэці год. Улады ГС у Юхноўцы задаволеныя яго поспехамі ў працы.*

*Найбольш яек прыносяць на вясковы пункт скупкі аднасяльчане: Аляксей Бручко (120 кілаграмаў яек у месяц), Мікалай Антонюк, Мікалай Лашэўскі і іншыя.*

*(ця)*

У ЧАРОМХАЎСКАЙ ГМІНЕ

## Рамонт дарог і вуліц

Насельніцтва Чаромхаўскай гміны адрозніваецца тым, што тут жыве значная колькасць сялян-рабочых. Многа жыхароў гэтай гміны працуе на чаромхаўскіх чыгуначных прадпрыемствах або беспасрэдна ў абслугоўванні чыгункі.

Сярод насельніцтва спамянутай гміны выпрацавалася пачуццё патрэбы карыснай працы для свайго асяроддзя. І таму многа зроблена і робіцца тут грамадскай працай.

Вось цяпер заканчваецца пабудова 10-кіламетровага адрэзка дарогі ад Зубачоў да пасёлка Чаромха. На асаблівую пахвалу заслугоўваюць жыхары вёсак Зубачы, Янцэвічы і Баброўка, якія найбольш рамантавалі гэтую дарогу.

Апрача таго, сяляне з Янцэвічаў навезлі пяску на адрэзак каля трохсот метраў паміж Зубачамі і Янцэвічамі.

Жыхары вёскі Ставішчы пасадзілі ў сваёй вёсцы паабапал вуліцы 900 дрэўцаў ліпы і таполі.

У пасёлку Чаромха будуецца вуліца Каляёвая, якая вядзе да чыгуначнага вакзала. Пераважна рабочыя паравознага дэпо, а пры тым і іншых устаноў выканалі пры ёй шмат зямельных прац, у тым ліку зрабілі адвадняючы роў.

Жыхары вёскі Чаромха грамадскім чынам правялі рамонт дарогі, якая вядзе ад сяла да супрацьпажарнага басейна і на сенажаці. (ця)

## Фота па заказу



Krzysztof Kolberger

*Заказвала Ірэна Несцярук з Дубіч Царкоўных.*

Шаноўны Астрон! У мяне на вёсцы ёсць два хлопцы. Адзін мне больш-менш абыякавы, другі ж — не зусім, хаця аб гэтым не ведае нават ён сам. Часта ён мне сніцца. Здаецца мне тады, што я вынаходжу розныя прычыны, каб убачыць яго самога або прынамсі яго дом. І калі ўжо гэта станецца, дык адчуваю сябе вельмі шчаслівай. Аднак ніколі, хаця маю вялікую ахвоту, не заходжу ў гэту хату, а з яго гаспадаром ніколі не размаўляю. Ці гэта абазначае, што нічога не выйдзе з маіх мар аб ім?

А што абазначаюць залатыя завушніцы з жамчужынай у сярэдзіне? У сне я бачыла менавіта такія, але баялася праколваць дзірку ў вуху, дык схавала завушнічкі.

Снілася мне таксама, што голай рукою я забівала тараканаў.

А ў апошнім сне, пра які я хацела б табе расказаць, мне снілася, што цэлую ноч я блудзіла па Беластоку. Нарэшце выйшла на дарогу, што вяла да маёй вёскі. Бачыла, што ўсе садзілі бульбу: усюды было заарана поле і стаялі поўныя кошыкі бульбы. Нечакана я ўбачыла свайго кіраўніка, ад якога пачала ўцякаць. А ён мяне даганяў. Калі я перабегла праз збожжа, то ўбачыла пасучагася чырвонага каня, на якім я паляцела, як віхор. Апынулася за граніцай, у Ісландыі, навокал быў густы лес. У гэтым лесе знайшла я хатку, у якой

## ВЕР-НЕ-ВЕР

мела намер пасяліцца. Кіраўнік мяне не знайшоў, і з гэтай радасці я прачнулася.

Што абазначаюць гэтыя сны, шаноўны? Паміраю з цікаўнасці!

**Зося**

Першы ваш сон гаворыць аб няспоўненых вашых марах і, можна сказаць, адлюстроўвае рэчаіснасць. З гэтым хлопцам у вас сапраўды, бадай, нічога не выйдзе.

Другі ваш сон, здаецца, пацвярджае першы. Завушніцы, калі сніць іх паненка, абазначаюць для яе вяселле (калі сніць замужняя — роды). Аднак вы не пракололі дзіркі ў вуху, а іх схавалі, ды, што горшае, у сярэдзіне іх была жамчужына, а гэта б ужо абазначала расстанне з каханым.

Тараканаў бачыць — радасць і весялосць, але ж вы іх забівалі... А забіваць жывёлу ці насякомае — сум і раскаянне.

Апошні сон — на пацяшэнне. Вы ўцякалі ад кіраўніка — чакае вас небяспечнае падарожжа. Але скончыцца яно, бадай, добра і нейкім прыбыткам: вы ж бачылі поўныя кошыкі бульбы. Ды і тое, што вы апынуліся за граніцай, абазначае перамену вашых спраў на лепшае. Конь, на якім вы паляцелі „віхрам“, абазначае поспех і перамогу, а хатка, якую вы знайшлі ў лесе, бадай, новыя зацікаўленні.

**Астрон**

## § Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** К. пераходзіў праз вуліцу, а Г., едучы матацыклам, наехаў на яго. У выніку гэтага выпадку ў К. была зламана нага, і ён тры месяцы лячыўся ў бальніцы і дома, а пасля было ўстаноўлена 16% трывалага інвалідства. ПЗУ выплаціла яму кампенсацыю — 6400 зл. К. лічыць, што гэта вельмі мала і належыцца яму не толькі большая кампенсацыя за крыўду, але і за тое, што ён не мог працаваць на гаспадарцы і наймаў работнікаў, а таксама за даезды да доктара. ПЗУ адмаўляецца ад далейшай кампенсацыі, тлумачачы, што К. сам вінаваты, бо неспадзявана сышоў з тратуара на вуліцу. Ці можа К. дамагацца далейшай кампенсацыі?

**АДКАЗ:** ПЗУ згодна з абавязваючым законам выплаціла К. 6400 зл. К. можа дамагацца кампенсацыі за ўсякія школы, якія ён меў у выніку выпадку, калі дакажа, што да выпадку дайшло з віны матацыкліста. Калі б было сцверджана, што К. так неспадзявана вышаў на вуліцу, што матацыкліст не мог ужо затрымацца, то далейшая кампенсацыя не магла б быць прызнана. Матацыкліст мог бы даказаць, што ён не вінаваты, калі б ехаў ён згодна з правіламі дарожнага руху, а перш за ўсё з дазволенай хуткасцю і правільным месцам вуліцы. Калі б, прыкладна, было даказана, што матацыкліст ехаў занадта хутка і няправільна, нават калі б К. сышоў на вуліцу з парушэннем правіл вулічнага руху, належалася б яму далейшая кампенсацыя, хаця і магла б яна быць адпаведна абніжана.




Дарагое Сэрцайка, выйшла я замуж даволі рана, адразу пасля заканчэння ліцэя. Хадзілі мы з сабой два гады, абое вучыліся. Ад першага дня нашага спаткання Пеця быў вельмі мілы, сардэчны, закідаў мяне каханымі словамі, часта прыносіў кветкі. Мы не маглі дачакацца, калі зможам пажаніцца, каб быць заўсёды разам, хаця і так спатыкаліся амаль штодзень. І вось ужо ідзе другі год нашага супольнага жыцця. Але як жа іншае яно ад таго, якім было пакуль пажаніліся. Адразу пасля шлюбу праблема з кватэрай. Зачапіліся пакуль што ў цесцяў. Было цесна, пасварыліся з цёшчай, змянілі кватэру. Я не працую, выхоўваю малое дзіця. З адной зарплаты жыць цяжкавата, муж пачаў дарабляць на паўштата. Працуе многа, я пераважна сама ў хаце цэлымі днямі. Сумна, з нецярплівасцю чакаю яго з работы. Але ён як і прыйдзе, дык ужо не той, што калісьці. Няма ў яго той чуллівасці, гаманлівасці. Стаў больш маўклівы. Калі гаворыць, дык аб справах гаспадарчых — што купіць, як зрабіць, як тое ці іншае ўладзіць. Пасля працы адпачыць хоча, а тут дзіця спакойна заснуць не дасць, злуецца... Праўда, ён не крыўдзіць мяне, не п'е, але куды ж падзелася яго ранейшая сардэчнасць? Сэрцайка, ці ж ужо так мусіць быць?

Ірка з Бельска

Ірка, рамантычная душа твая, так як і многіх дзяўчат. І хацелася б табе і надалей, ужо замужам, жыць тым рамантычным жыццём, жыць толькі для сябе, як было раней. Але, калі вы пажаніліся, у вас змяніліся абставіны. Раней пра вас клапаціліся бацькі, а цяпер сямейныя клопаты зваліліся на вашы галовы. У маладой сям'і мноства патрэб, а каб іх здзейсніць, патрэбны грошы. Муж твой сам іх зарабляе, працуе многа, дык і не дзіўна, што бывае змучаны, і не ў настроі часам. Пачатак заўсёды нялёгкі, толькі не ўяўляюць гэтага маладыя, закаханыя людзі, якія за ўсю цану імкнуцца як найхутчэй пажаніцца, а потым наракаюць.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў




### ЛЕТАМ — АБ ВАЛАСАХ

Што рабіць, калі вясною пачынаеш адчуваць, што валасы паслабелі і пачынаюць вылазіць? Вядома ж, што ў апошні час модная так званая „малая галоўка“. А такую прычоску лёгка насіць, маючы густыя, моцныя і здаровыя валасы. Што ж рабіць тым дзяўчатам і маладзіцам, у якіх валасы слабейшыя?

Перш за ўсё — не пераживаць і не хваляваацца. На ўсё ёсць свае спосабы, а вясенне-летні сезон будзе якраз спрыяць умацаванню валасоў.

Перш за ўсё валасы летам увесь час праветрываюцца (бо ходзім жа без шапак і хустак), а гэта для іх зусім не ўсё роўна.

Апрача таго, ёсць мноства зеляніны, і трэба есці як мага больш розных салатаў з гародніны і фруктаў.



Трэба выпіваць таксама штодзень 3—4 шклянкі малака і есці многа тварагу.

Два разы ў дзень трэба масіраваць галаву шчоткай, расчэсваючы валасы ў розных напрамках. Толькі пры валасах, якія маюць схільнасці хутка рабіцца тлустымі, нельга рабіць гэтай аперацыі.

Вечарам, перад сном, расчасаўшы валасы, трэба ўціраць у скуру галавы пальцамі адну з узмацняючых валасы вадкасцей: „Л-102“, крапіўную ваду, ці зёлкавую наліўку, падрыхтаваную па рэцэпту доктара.

**Эскулап**




Не памаглі панам ні павелічэнне карных падраздзяленняў, ні жорсткія расправы над мірным насельніцтвам, ні рашэнне ўрада аб вялікай узнагародзе за галаву Мухі-Міхальскага. У чытача можа ўзнікнуць пытанне: чаму гэтае рашэнне ўрада не было абнародавана ў друку, а даводзілася да ведама паліцэйскіх і цывільных чыноўнікаў праз вельмі сакрэтны цыркуляр, падпісаны ваяводам Даўнаровічам?

Друк, каб супакоіць памешчыкаў і асаднікаў, старастаў і войтаў і разам з тым увесці ў зман народныя масы, часта і даволі ахвотна паведамляў пра тое, што злоўлены байцы з атрада Мухі-Міхальскага, пра шматлікія судовыя працэсы над імі і нават пра разгром і знішчэнне ўсяго атрада, арышт „самога Мухі-Міхальскага“. Так, 8 сакавіка 1924 года газета „Работнік“ у карэспандэнцыі пад яскравай назвай „Ліквідацыя банды Мухі-Міхальскага“ вельмі катэгарычна сцвярджала: „У апошнія дні канчаткова ліквідавана славутая банда Мухі-Міхальскага, якая на працягу некалькіх гадоў наводзіла жах на насельніцтва польска-рускай пагранічнай паласы“. Зразумела, да „насельніцтва“ газета перш за ўсё залічвала тых жа памешчыкаў і асаднікаў, паліцэйскіх чыноўнікаў і старастаў. Менавіта на іх ужо само імя Мухі-Міхальскага наводзіла жах і прымушала дрыжаць. Сапраўднае ж насельніцтва бачыла ў Муху-Міхальскім свайго абаронцу і клапатліва аберагала яго. Далей у карэспандэнцыі паведамлялася, што паліцыя захапіла байцоў з атрада Мухі-Міхальскага, частка іх расстраляна, а астатнія прыгавораны да пажыццёвага зняволення. А галоўнае, сцвярджала газета, партызанскі важак „легендарны Муха арыштаваны некалькі дзён таму назад“.

Як пасля ўсіх гэтых паведамленняў аб „канчатковым разгроме“ атрада Мухі-Міхальскага можна было публічна прызнацца, што яны, мякка кажучы, не адпавядалі праўдзе? Гэта ж зноў пацвердзіць бездапаможнасць паліцыі, войск, агентуры перад гэтым „дэманам“ Мухам-Міхальскім. Праўда, звесткі аб рашэнні ўлад расправіцца з ненавісным ім Мухам пры дапамозе мільярдаў усё ж прасачыліся на старонкі некаторых газет.

Газета „Валынскае слова“, напрыклад, 3 ліпеня 1924 года змясціла наступную непісьменную заметку:

„Узнагарода за злаўленне Мухі-Міхальскага.

Старшыня Савета Міністраў назначыў раней, як вядома, за злаўленне вядомага бандыты Мухі-Міхальскага ўзнагароду ў памеры 10 мільярдаў польскіх марак. Цяпер жа, як нам паведамляюць, асігнавана яшчэ 5 мільярдаў, і гэтая сума прызначана ва ўзнагароду таму, хто хоць бы паведамленнем нязначных звестак дапамог бы паліцэйскім уладам злавіць гэтага дасюль няўлоўнага бандыта“.

А слава Мухі расла з кожным днём. Цяпер ад яго імя выступалі не толькі ўсе партызаны, што дзейнічалі ў Заходняй Беларусі, але часам і партызанскія правадыры Ровеншчыны і Валыні.

Ні цыркуляр палескага ваяводы Даўнаровіча аб вялікай узнагародзе за Муху-Міхальскага, ні частыя інспекцыйныя паездкі самога ваяводы на Палессе, якое літаральна кіпела ад народнага гневу, не давалі вынікаў. Тут Арлоўскі і зацікавіўся гэтым высокім службістам, які так старанна распрацаваў праграму барацьбы з партызанамі. Ён вырашыў сустрэцца з ваяводам і пагаварыць з ім „шчыра“.

У верасні 1924 года Даўнаровіч у суправаджэнні вялікай світы чыноўнікаў аб'язджаў свае ўладанні. Пра гэта стала вядома Арлоўскаму. Ён даручыў свайму вопытнаму разведчыку Івану Жалезнаму, які працаваў брыгадзірам па рамонце чыгункі на станцыі Люсіна, дакладна ўстанавіць нумар цягніка і час, калі Даўнаровіч будзе праязджаць праз бліжэйшыя станцыі. Неўзабаве Жалезны паведаміў: 24 верасня, у дзве гадзіны дня, спецыяльны цягнік з ваяводам і яго світай, не спыняючыся, пройдзе праз раз'езд Парахонск.

Арлоўскі і вырашыў спыніць цягнік з ваяводам якраз на гэтым раз'ездзе. Зрабіўшы саракакіламетровы пераход, атрад партызан (18 чалавек) на світанні падышоў да раз'езда і спыніўся ў густым лесе.

Загадаўшы назіраць за пуцявым абходчыкам і яго будкай, камандзір разам з Васілём Каржом і Іванам Раманчуком яшчэ раз дэталёва абмеркавалі аперацыю. План быў такі: атрад дзеліцца на чатыры групы. Першая — Арлоўскі і Фёдар Барташ, пераапранутыя ў форму чыгуначнікаў, спыняюць цягнік чырвоным сцяжком. Пасля таго як цягнік спыніцца, здымаюць машыніста і качагара, прымацоўваюць на паравоз чырвоны сцяг. Барташ напаўняе топку вугалем, адчэплівае паравоз ад саставу і накіроўвае ў Лунінец, насустрач спецыяльнаму цягніку з карным атрадам — гэты цягнік на чатыры вагоны заўсёды стаяў там з гатовым паравозам. Пасля таго як паравоз адправяць, другая група ўзрывае мост.

Узмах камандзіра чырвоным сцяжком з'яўляецца сігналам і для ўсіх партызан: яны адкрываюць дружны агонь паўзверх вагонаў. Па яго ж сігналу, калі ахова не будзе супраціўляцца, партызаны спыняць агонь. Цяпер трэцяя група на чале з Каржом нападае на цягнік спераду і ідзе па вагонах да сярэдзіны саставу, а чацвёртая пад кіраўніцтвам Раманчука — на хвост цягніка і праходзіць насустрач групе Каржа.

І хоць кожная група, кожны баец дакладна ведалі свае задачы ў гэтай аперацыі і не сумняваліся ў поспеху, нервы ва ўсіх былі напружаны. Аперацыя ёсць аперацыя.

*(Працяг будзе)*

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### НА ПУНКЦЕ СКУПКІ Ў НАРВЕ

У гэтым годзе ў нараўскім ГС-е пункт скупкі бульбы вёў Станіслаў Францкавяк. Было ў яго вельмі многа работы, бо сяляне з Нараўскай гміны прадалі дзяржаве многа бульбы, за якую плацілі добрыя цэны — па 190 зл. за цэнтнер.

На пункце скупкі панаваў заўсёды прыкладны парадак. А Станіслаў Францкавяк заўсёды стараўся ветліва і хутка абслужыць сялян, каб як найменш сталі яны ў чарзе. Быў я некалькі разоў на пункце скупкі бульбы і заўсёды сустракаў Стася ветлівага і з усмешкай. За добрасумленную працу Станіславу належыцца падзяка.

**М. Лук'янюк**

### ПАТРЭБНЫ РАМОНТ

Вясною гэтага года каля сяла Крывацічы зруйнавалася дарога. На адрэзку 50 метраў парабіліся вялікія калдобіны. Тут цяжка праехаць. А ездзяць па гэтай дарозе аўтобусы з Бельска ў Дубічы Царкоўныя.

У самым сяле абнізіўся значна брук на дарозе ў крывяціцкі лес. Трэба як найхутчэй правесці рамонт у гэтых месцах.

**Іван Кірызюк**

### ГУРТОК ЛЗС

Актыўна пачаў дзейнічаць крывяціцкі гурток ЛЗС. Вядучай камандай з'яўляецца футбольная каманда. Яна разыгрывае матчы з камандамі Орлі, Крывой, Спічкоў, Кашалёў. Лепшыя футбалісты гэта: Янка Кавальчук, Міша Журавель, Яўгень Шэршань.

**Іван Кірызюк**

### ПАКУЛЬ БЕЗ СВЯТЛА

У Трасцянцы ў Нараўскай гміне запанавала цемра на вуліцы. Ужо месяц часу, як Энергетычны раён у Бельску будуе тут новую энергетычную лінію праз усю вёску. А вёска Трасцянка не малая — цягнецца больш як 2 км. Старая лінія, пабудаваная зараз жа пасля вайны, мела ўжо дзіравыя стаўбы, трэба было іх абавязкова змяніць.

Ставяцца ў Трасцянцы бетонныя стаўбы. На кожным з іх будзе свяціць лямпачка. Жыхары крыху мучацца без святла, але затое будзе яно хутка лепшым.

**Э. Вайсковіч**

### МОЖНА ШЫЮ СКРУЦІЦЬ

На шашы Гайнаўка-Кляшчэлі ёсць такія месцы, што на матацыкле і на веласіпедзе трэба ехаць вельмі ўважліва, каб не паляцець галавою ўніз. Так многа тут калдобін! А насупраць вёскі Грабавец, на самым пачатку, шаша настолькі ўхабістая, што аж страшна робіцца.

**М. Панфілюк**

### У ПЕРШЫЯ КЛАСЫ

Хутка набліжаецца новы навучальны 1976/77 год. У групе сельскагаспадарчых школ у Бельску пачне навуку: 30 вучаніц і вучняў у першым класе Асноўнай сельскагаспадарчай школы, 30 — у першым класе Сельскагаспадарчага тэхнікума і па 30 чалавек у двух класах Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства. Без абмежавання прымаецца моладзь у Завочны сельскагаспадарчы тэхнікум.

Ад 1 верасня 1976 года пачне працаваць Завочная асноўная сельскагаспадарчая школа. Будзе далей дзейнічаць філіял групы сельскагаспадарчых школ у Бранску. Будзе арганізаваны яшчэ адзін філіял у Вышках.

**Мікалай Няплоха**

### ДА НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ!

Адбыўся наш з'езд. Прайшла вясна і настала лета. А лета, як лета, у журналістыцы, у газетнай працы — так званы „агурковы сезон“. Але дзякуючы вам, нашы верныя карэспандэнты, у нас не існуюць такія сезоны.

Прыйшло лета, а з ім і многа праблем узнікла на вёсках і ў гарадах. Аб іх і просім усіх вас пісаць, пісаць і яшчэ раз пісаць. Чакаем!

### НОВЫЯ ГАЙНАЎСКІЯ КАМІТЭТЫ

У Гайнаўцы адбыліся выбары ў пасёлкавыя камітэты. Перад гэтым былі праведзены агульныя сходы жыхароў пасёлкаў, на якіх прадстаўлялі яны свае пастулаты.

Кожны сход абслугоўваў прадстаўнік начальніка горада. На сходзе жыхароў пасёлка № 4 быў сам намеснік начальніка горада інж. Станіслаў Кастэра. А на выбарнай канферэнцыі — дырэктар гарадскога Прадпрыемства камунальнай гаспадаркі інж. Уладзімір Данілюк.

На тэрыторыі дзеяння пасёлкавага камітэта № 4 у мінулую кадэнцыю дзяржава выдаткавала 3 мільёны злотых — у пабудову дарог і вуліц, асвятленне і іншыя працы. Жыхары пасёлка сваёй грамадскай працай выпрацавалі суму 300 тысяч злотых.

У выніку выбараў старшынямі пасёлкавых камітэтаў горада Гайнаўкі сталі: Каламыцкі Аляксандр — камітэт № 1, Глінскі Уладзімір — камітэт № 2, Хворась Мікалай — камітэт № 3, Вайсковіч Эдмунд — камітэт № 4, Стасінкевіч Васіль — камітэт № 5, Пекут Генрык — камітэт № 6.

У пасёлкавых камітэтах горада Гайнаўкі будзе працаваць 126 членаў, якія будуць старацца рабіць свой горад штораз прыгажэйшым.

**Э. Вайсковіч**

### ЯК НАЗЫВАЮЦЦА РЭЧКІ?

Праўленне раёна публічных дарог у Бельску Падляшскім паставіла ў маёнтку Страбля на мосце шыльду, на якой рэчку Пульшанку, што завецца так спакон веку, перайменавала на Страбельку. Ва ўсіх гідралагічных і меліярацыйных дакументах яна ж называецца Пульшанкай. З гэтай мясцовасці яна і бярэ свой пачатак.

У вёсцы Буйнова ручай Грабавец назвалі рэчкай Бронкай, на мосце відаць шыльда таго ж Бельскага раёна публічных дарог. Больш таго, тут жа, пад самым носам усіх нас, у горадзе Бельск Падляшскі, таксама фальсіфікавана назва ракі. Дадзена ёй імя „Вялка“, калі на самай справе спрадвеку яна завецца Белая (Бяла). Тут, відаць, гарадская дарожная служба падарыла нам такую неспадзяванку.

Лічу, што агульнапрынятыя назвы рэк абавязваюць Праўленне раёна публічных дарог і гарадскую дарожную службу ў Бельску Падляшскім і ніхто не даў ім права ад саміх сябе ўводзіць розныя такія „навінкі“ ў назвах і муціць людзям галаву.

**В. Тафаномкін**

### ПРЫЕМНАЕ З КАРЫСНЫМ

На паўночнай ускраіне Бельска размяшчаюцца працаўнічыя агародчыкі пад агульнай назвай „Падлясяк“. Пасля заканчэння працы гаспадары гэтых агародчыкаў прыходзяць сюды, каб дагледзець свае пасадкі, выпалоць зелле, а то і проста паглядзець на свае загоны. А ў святочны дзень можна сустрэць тут цэлыя сем'і. Яны тут адпачываюць воддаль ад гарадской суматохі.

На многіх дзялянках стаяць прыгожыя летнія домікі. Некаторыя з іх — проста кіёскі, купленыя ад „Руху“ і дастасаваныя да новых патрэб.

Кожны агародчык — гэта твор фантазіі свайго гаспадара, і трэба сказаць, што многім гэтай фантазіі не бракуе. Пры некаторых агародчыках хацелася б стаяць і стаяць, так прыгожа яны загаспадараны. Тут і фруктовыя дрэўцы, і агародніна, і кветкі, і прыгожыя дарожкі.

Кожны, хто дбае пра свой агародчык, увосень збірае багаты ўраджай, якога хопіць цэлай сям'і на ўсю зіму. А і летам не трэба хадзіць на рынак за зелянінай. У дажджлівыя гады ўраджаі былі слабыя. Тут даволі нізка, і пасадкі вымакалі. У гэтым годзе ранняй вясной было зроблена дрэнацыя. Цяпер не будзе мокра.

У маі было выдзелена 29 новых дзялянак. Іх хопіць жадаючым мець свой агародчык. Некаторыя ўжо пачалі загаспадарваць свае агароды, праз некалькі год тут будзе напэўна так сама прыгожа, як на „старых“ агародчыках. Некаторыя і старыя агародчыкі, аднак, стаяць незагаспадараныя, на іх расце толькі зелле і буйная трава. Праўленне працаўнічых агародчыкаў „Падлясяк“ павінна падумаць над тым, каб такія „забытыя“ агародчыкі перадаць іншым людзям, якія чакаюць у чарзе. Навошта марнаваць зямлю? У нас яе не так многа.

**В. С.**

### ЦІ АЖ ТАК ПАКРЫЎДЖАНА?

Калісьці нават быў у „Ніве“ артыкул пра гэтую пакрыўджаную лёсам дзяўчыну з вёскі Грабавец, Дубіцкай гміны. Завецца яна Ніна Шэшка. Ды той артыкул быў далёкі ад праўды. Аўтар пісаў, што Ніна амаль вымушана хадзіць з торбай па свеце, бо яе родны брат выганяе яе з хаты, хаця яна і робіць усё, што брат скажа.

А як яно ў сапраўднасці?

Ніна Шэшка маладая (каля 30 год) жанчына. Лекары прызналі, што яна зусім здаровая, а ходзіць Ніна па свеце, як цыганка, амаль жабруе і не мае ніякага прытулку.

Брат яе жанаты, многадзетны чалавек, жыве небагата. Аднак сястру прыняў бы за няньку, каб толькі яна хацела працаваць. Але Ніна не мае зусім ахвоты да працы, а паесці хоча смачна. Калі што не падабаецца, злуецца і ўцякае з вёскі.

Нейкі нягоднік насмяяўся над дзяўчынай, і Ніна нарадзіла дзіцё, якое выхоўваецца ў дзіцячым доме ў Беластоку.

Некалькі год назад далі Ніне працу ў Гайнаўцы ў кааператыве інвалідаў — праца была лёгкая па сіле і здольнасцях. На трэці дзень, аднак, Ніна ўцякла з гэтай працы і па сённяшні дзень ходзіць па цэлай Гайнаўшчыне.

Такая вось яна, праўда, пра пакрыўджаную лёсам Ніну Шэшка.

**П. Дубовіч**




### РАНІЦАЙ

*Зорка апошняя свяціла,*
*Месяц за землю зайшоў,*
*Маці ў пячы распаліла,*
*Бацька да клуні пайшоў.*

*Пастух у трубу заіграе,*
*На пасбішча гоніць кароў,*
*Росы траву пакрываюць —*
*Так ранак начаўся вясной!*

**Пятрусь Гіншт**




**М. Матвеюк.** Аносна матэрыялу для „Зоркі“. Вы, як ніхто другі, ведаеце, што цыкл друку ў нас доўгі. Матэрыял ваш быў бы вельмі спознены. Аб выдатнейшых вучнях школы ці аб важных падзеях трэба пісаць, але не агульна (што, напрыклад, прымаў удзел у нейкіх спартыўных спаборніцтвах), а падаваць канкрэтныя факты. Таксама пра збор макулатуры два разы пісаць няма сэнсу: ці ў горадзе ці ў вёсцы збіраць трэба яе аднолькава. Вашы матэрыялы пра макулатуру скамасуем.

**Марко.** Пра вакзалы ПКП і ПКС у Гайнаўцы мы ўжо пісалі, ды апублікавалі нават адказы высокіх улад на гэту тэму, з якіх даведаліся, што вакзалы як у Бельску, так і ў Гайнаўцы будуць будавацца. Інфармацыю „Ці гэта рамонт?“ надрукуем.




3.06.76 г. а 23.20 у Бельску Рышард Б., які ехаў матацыклам „Ява“, наехаў на стоўб. Цяжка параненага, завезлі яго ў бальніцу.

14.06.76 г. а 00.40 на чыгуначнай станцыі ў Бельску здарыўся страшэнны выпадак. У поезд, які ехаў з Белавежы ў Беласток, ускакваў п'яны Мікалай М. з Грэдалёў, што ў Арлянскай гміне. Папаў пад колы вагона і так загінуў.

16.06.76 г. а 8.30 у Саколцы (на вуліцы Крынскай) Андрэй Я. з Беластока, які кіраваў самаходам „Стар“, абганяючы фурманку, наехаў на матацыкл „ВСК“, якім кіраваў Генрык П. з Баброўнікаў. Цяжка параненага матацыкліста адвезлі ў бальніцу.

22.06.76 г. а 9.00 у Гайнаўцы, на скрыжаванні вуліц 1 Мая і Леніна, Бернард Х. з Гайнаўкі на „Жуку“ стукнуўся з матаролерам „Камар“ Мікалая Л. з Гайнаўкі. Мікалай Л. паламаў левую ногу і апынуўся ў бальніцы.

### БЕСКЛАПОТНАСЦЬ

Аб тым, што кляшчэлеўскія ўлады амаль ніколі не адказваюць на крытычныя інфармацыі, напісаныя ў іх адрас карэспандэнтамі, усім вядома.

Некалькі разоў пісалася, напрыклад, у „Ніве“ аб праломленым мосціку на дарозе каля вёскі Тапаркі. Ніхто тут дагэтуль нічога не рабіў і, відаць, жыхары Тапаркоў прызвычаіліся да гэтага. Дзіўна толькі, што дзеячы вёскі не паклапоцяцца і не падгоняць у сваёй справе гміну.

**М. Панфілюк**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ДА 30 ЛІСТАПАДА

Пра вуліцу ў вёсцы Дубіны, што каля Гайнаўкі, пісалі мы крытычна пару разоў. І нарэшце прыйшоў пазітыўны адказ у гэтай справе. Адказвае **Раён публічных дарог у Бельску Падляшскім.** Адказ публікуем з прыемнасцю і верым, што 30 лістапада „з прыемнасцю“ паедзем дасканалай дарогай.

W odpowiedzi na notatkę prasową w czasopiśmie „Niwa” z dnia 16.V.76 r. Nr 20 pt. „Nieporządek na ulicy”, Rejon Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim komunikuje, że w obecnym czasie idzie przebudowa ulicy Dubiny, zakłada się krawężniki, poszerza się jezdnię. Następnym etapem będzie ułożenie nawierzchni asfaltowej.

Do dnia 30 listopada br. cały obiekt zostanie oddany do eksploatacji i przejazd przez wieś Dubiny będzie przyjemnością.

**Dyrektor Rejonu Dróg Publicznych**
**w/z mgr inż. Jan Wawrzyniak**

### У ПОЕЗДЗЕ З БЕЛАСТОКА Ў БЕЛАВЕЖУ

Фельетон пра падарожжа поездам з Беластока ў напрамку Гайнаўкі называўся „Цырк на калёсах“. Быў апублікаваны ў 13 нумары з 28 сакавіка. Аўтар Міхась Шаховіч пісаў пра беспарадак, цеснату, бруд і спазненне паяздоў на гэтай лініі. Ніжэй прыводзім доўгі і даволі бязрадны адказ **Дырэкцыі раённай ПКП — Гандлёва-перавознага аддзялення ў Беластоку.** Пра цяжкасці ў камунікацыі ПКП ведаем, але таксама ведаем, што пры добрай волі і ахвоце нават у цяжкасцях можна многа добрага зрабіць, толькі трэба пастарацца і старацца пастаянна.

W związku z ukazaniem się felietonu w dniu 28 marca 1976 roku w sprawie niewygód w podróżowaniu, ciasnocie i brudnych wagonach w pociągach relacji Białowieża—Białystok, Dyrekcja Kolei Państwowych w Białymstoku komunikuje co następuje.

W przedmiotowej sprawie przeprowadzono szczegółowe postępowanie wyjaśniające, które potwierdziło w okresie od dnia 15—31 marca 1976 r. 4 przypadki opóźnienia pociągów, wynikłe z przyczyn technicznych, tj. awaria i naprawa lokomotyw oraz oczekiwania na skomunikowanie z innymi pociągami.

W sprawie małej ilości wagonów w składzie pociągów, co powoduje ciasnotę, wyjaśnia się, że Dyrekcja otrzymała nowy tabor piętrowy produkcji NRD, który jest bardzo estetyczny, posiada znacznie większą ilość miejsc, a który przeznaczono do kursowania wyłącznie w rejonie Hajnówka, Białowieża, Białystok przydzielając tu osiem zestawów. Zwiększenia wagonów Dyrekcja obecnie dokonać nie może, wobec braku wagonów i rozpoczętych przewozów kolonijnych, a problem braku wagonów, który występuje w całej sieci PKP, nie tylko w Białymstoku, z przyczyn obiektywnych znany jest również Redakcji.

Zanieczyszczanie wagonów w czasie jazdy jest powodowane przez podróżnych korzystających z usług kolei. Społeczeństwo nasze nie posiada jeszcze dość wysokiej kultury podróżowania, co właśnie przejawia się w zanieczyszczaniu publicznych środków lokomocji, które z kolei stają się powodem krytyki prasowej. Zaznacza się, że przed wyprawieniem składu pociągu w drogę dokonuje się gruntownego obrządzania wagonów. Również po przybyciu składu pociągu z drogi, dokonuje się jego porządkowania.

Informując o powyższym tut. Dyrekcja w chwili obecnej nie ma żadnych innych możliwości zwiększenia ilości wagonów z przyczyn wyżej opisanych. Poprawa może nastąpić po otrzymaniu dodatkowych wagonów, o co stale czyni się starania ze strony Dyrekcji.

**Dyrektor**
**z up. mgr Arkadiusz Szrodel**
**Naczelnik Działu**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**



 

# Час — не грошы

Цяпер модна праводзіць апытанні грамадзян, высылаць анкеты. І я вырашыў не адставаць ад часу. Задумаў правесці апытанне сваіх сяброў.

Зручна ўсеўшыся ў крэсла, я пачаў званіць па тэлефоне. Пазваніў у адну кантору.

— Хацеў бы пагаварыць з начальнікам.

У трубцы пачуў пяшчотны жаночы голас:

— Ён паехаў на аб'ект. А хто пытае?

— Праўяровіч.

— А, Праўяровіч, па голасу я цябе не пазнала. Шчыра кажучы, шэф надаўна выйшаў у буфет, піва свежае прывезлі.

Пазваніў у другую арганізацыю.

— Скажыце, калі ласка, дзе цяпер ваша інспектар Шуханец?

— Ды я дакладна і не ведаю, — адказала мая знаёмая. — Баюся ашукаць, але, здаецца, яна пайшла ды цырульні.

Затым я набраў нумар яшчэ адной знаёмай устаноны і папрасіў, каб паклікалі інструктара Сычко.

— Ведаеш што, дарагі Праўяровіч, яна яшчэ не вярнулася з магазіна. Толькі што бачыла яе каля малочнага аддзела, — незразумела прапішчэла ў трубцы.

Званю далей.

— Бухгалтар пайшоў у кіно. Мо і мы з табой таксама дагаворымся? Кажуць, добры фільм. Вечарам вельмі цяжка дастаць білеты.

— Намеснік сёння яшчэ не з'яўляўся, недзе затрымліваецца...

— Сакратар пайшоў у гадзіннікавую майстэрню...

— Галоўны эканаміст толькі што знік на стадыён. Кажуць, цікавая гульня будзе...

— Машыністка выскачыла ў магазін. Імпартныя чаравікі прадаюць...

Да канца работы заставалася больш трох гадзін. Але я кінуў усе паперы ў стол і пачаў складаць вершы. Сакратаршы растлумачыў:

— Калі будзе званіць нехта з незнаёмых, скажы, што пайшоў на кансервавую фабрыку, на спраўздачна-выбарны.

А ў наступны працоўны дзень напісаў гэту гумарэску.

**Я. Скрабоцкі**



*— А ты не магла б хоць крыху пачакаць?!*

### СКАЖЫЦЕ МНЕ...

П'яны Кастусь прасунуў ноччу галаву ў чужое адчыненае акно:

— Людзі, прачніцеся, скажыце мне: дзе я і што я?



**...Ён спаліў за сабою ўсе масты, каб не было куды адступаць, і здаўся.**



*Навокал вада...*

### НАТУРАЛЬНА

Муж і жонка аб'язджваюць новую машыну. Раптам матор глухне.

— Праклятыя свечкі! — бурчыць муж.

— Зусім натуральна, мілы, — адзываецца жонка, — на вуліцы такі моцны вецер...

### ДАГАВОР

Рэжысёр акцёру:

— Дык мейце на ўвазе, што ў гэтай сцэне леў прыкладна пяцьдзесят метраў бяжыць за вамі на адлегласці двух крокаў!

— Спадзяюся, леў аб гэтым ведае?



### ЦЕШЧА

У кабінет лекара жанчына ўводзіць маладога чалавека і, саромеючыся, гаворыць:

— Гэта мой зяць. Я моцна ўдарыла яго патэльняй.

Доктар аглядае хворага, потым пытае:

— Як жа вы маглі так моцна ўдарыць мужа вашай дачкі?

— Справа ў тым, што калі я яго ўдарыла тры дні таму назад, ён яшчэ не быў мужам маёй дачкі!

МІНІВЕРШЫ

### У ДОМЕ АДПАЧЫНКУ

— Тут ёсць усё, каб вы сябе маглі, як дома, адчуваць...

— Як так?!

— пакрыўдзіўся Панас, —

Я ж прыляцеў адпачываць!

**Іван Кананенка**

### ДЗЕ ДЗІРКА?

Маці сварыцца на Міколку:

— Дзе ты лазіў, зноў дзірка на калені?!

— Не на калені, а на штанах, — паправіў Міколка.



*Без слоў.*

### ДЫЯЛАГ

— Я яму кажу: „Я гэтага не гаварыла, што вы кажаце. Гэта вы гаворыце, што я кажу, што я гаварыла!"

— А ён што кажа?

— А ён кажа: „Што гэта вы мне кажаце?!"

— Ён вам сказаў!

— Вось я й гавару!

— Няма чаго й казаць!

— Што не кажы, цяпер усе пра гэта гавораць.

— Ну, між намі кажучы, гэта толькі размовы.

— Я б гэтага не сказала...

— Гавары — не гавары...

— Скажаце такое!...

— Я ж кажу: „Пагавораць і ўсё..."

— Ну, не кажыце!...

— А вы кажаце!...

— Толькі вось што я вам скажу: не кажыце пра гэта нікому.

— І гэта вы мне гаворыце?!

**Юрый Івакін**

### ПАПАРЫЛІСЯ

Убачылі хлопцы на вуліцы дзядзьку Сідара, які славіўся тым, што ўмеў выдумваць смешныя небыліцы.

— Дзядзька Сідар, раскажы што-небудзь, — просяць яго.

— Ат, няма часу. Лазня ўжо вытапілася, спяшаюся мыцца. Прыходзьце, разам папарымся.

Прыйшлі. А ў лазні ні пары, ні Сідара.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— На жаль, гер Штубке, я вымушаны адхіліць вашу просьбу; мы не можам прыбавіць вам зарплату.

— Я разумею, гер дырэктар, ды ці нельга ў гэтакім выпадку плаціць мне тую ж зарплату, толькі часцей?

*

Раптоўна разбагацеўшы на нафце тэхасец расказвае сябру, што намераны пабудаваць у сябе тры басейны.

— Чаму тры?

— Адзін — з падагрэтай вадой, другі — з халаднаватай, а трэці — без вады.

— Навошта ж табе басейн без вады?

— Ты не ўяўляеш, колькі запрошаных не ўмее плаваць!

*

Жанчына звяртаецца да прыватнага дэтэктыва:

— Я хачу, каб вы ўважліва сачылі за маім мужам і гэтай жанчынай. Потым паведаміце мне, што яна ў ім знайшла.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Змінскай з Гайнаўкі змяшчаем папулярную беларускую песню на словы Канстанцыі Буйла

## Люблю наш край

*Люблю наш край — старонку гэту,*
*Дзе я радзілася, расла,*
*Дзе першы раз пазнала шчасце,*
*Слязу нядолі праліла.*
*Люблю народ наш беларускі,*
*Хаціны ў зелені садоў,*
*Залочаныя збожжам нівы,*
*Шум нашых гаяў і лясоў,*
*І рэчку, што імкліва воды*
*Нясе ў нязведаную даль,*
*І схілы берагоў пясчаных,*
*І холад чыстых яе хваль.*
*Люблю вясну, што ў кветкі, зелень*
*Аздобіць радасна зямлю.*
*Буслоў на гнёздах клекатанне*
*І спеў жаўрона чка люблю,*
*Гарачую спякоту лета*
*І буру летнюю з даждом,*
*Як гром грыміць, а ў чорных хмарах*
*Маланка зіхаціць агнём.*
*І час жніва душой люблю я,*
*І першы звон сярпоў і кос,*
*Як выйдуць жнеі збожжа жаці,*
*А касары — на сенакос.*
*Люблю зіму з яе марозам,*
*Што вокны прыбярэ ва ўзор,*
*І белы снег, што ўкрыўшы поле,*
*Ірдзее бляскам ясных зор.*
*Люблю ў пагодную я ночку*
*Да позна на двары сядзець,*
*Сачыць за сініх зор мігценнем,*
*На месяц залаты глядзець.*
*І песню родную люблю я,*
*Што дзеўкі ў полі запяюць,*
*А тоны голасна над нівай*
*Пераліваюцца, плывуць.*
*Усё ў тым краі сэрцу міла,*
*Бо я люблю край родны свой,*
*Дзе з першым шчасцем я спазналась*
*І з гора першаю слязой.*

### ГАРАДСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ



*Навацыі і традыцыі.*

**Байкі ў прозе**

### ЛЯЖАЧЫ КАМЕНЬ

Пад Ляжачы Камень зацякла веснавая вада.

— Гвалт! — закрычаў Камень. — Падкопваюцца, размываюць асновы, з месца прыбраць хочуць! А за што?

Настала лета.

Каса, што траву касіла, наляцела на Ляжачы Камень.

Пасыпаліся іскры з Касы, лязо пагнулася. Адправілі Касу ў рамонт.

— Бач, чаго захацела, — буркнуў Камень. — З законнага месца ссунуць. Не такім зубы ламалі!

**Юрый Ярмыш**



### РАЗБЭШЧАНАСЦЬ І ДЫМ

У горадзе Прэторыя Паўднёвай Афрыканскай Рэспублікі адна грамадская арганізацыя па барацьбе супраць маральнай разбэшчанасці вырашыла сабраць усю парнаграфічную літаратуру і спаліць на вялікім вогнішчы. Ды муніцыпалітэт не адобрыў гэтую ініцыятыву: мяркуюць, парнаграфічнай літаратуры ў горадзе такое незлічонае мноства, што дымам ад яе можна забрудзіць акружаючае асяроддзе.

### ЖЫВЫ НАГЛЯДНЫ ДАПАМОЖНІК

25-гадовы нью-йоркавец Джон Бурнштэйн быў акцёрам, але застаўшыся без работы, доўгі час не мог знайсці занятак па прафесіі. Што рабіць? Перакваліфікавацца? Але ці можна быць упэўненым, што ён знойдзе работу па другой спецыяльнасці? Да таго ж, ён быў пераканаы ў тым, што пераўвасабленне — яго прызванне. У рэшце рэшт ён прысвяціў сябе ролі... нагляднага дапаможніка ў вобласці анатоміі. Толькі сцэнай яго сталі не падмосткі тэатра, а звычайныя школьныя класы.

Джон Бурнштэйн справіў сабе трыкатажны касцюм у абцяжку і намаляваў на ім унутраныя органы чалавека, мышцы і косці. І вучні з найвялікшай зацікаўленасцю спасцігаюць анатамічную навуку, тым больш, што „наглядны дапаможнік" да таго ж пяе і танцуе на занятках. Вучоба праходзіць даволі весела.

На ўроках Бурнштэйна, па недакладных даных, ужо пабывала каля 200 тысяч вучняў розных школ Нью-Йорка.



**Перш чым трымаць нос па ветру, трэба, разабрацца, адкуль ён у сапраўднасці дзьме.**